Вячаслаў Рагойша

# ПОЛЮС ЦЯПЛА

*Вершы*

Мінск, «Кнігазбор», 2007

УДК 821.161.3-1
ББК 84 (4 Беи)
Р14

**Рагойша В.**
Р 14 Полюс цяпла: вершы / Вячаслаў Рагойша. Мінск: Кнігазбор, 2007. – 180 с.
ISBN 978-985-6824-66-4.

Кнігу «Полюс цяпла» вядомага гісторыка і тэарэтыка літаратуры, доктара філалагічных навук, прафесара Вячаслава Рагойшы склалі асобныя вершы, якія на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў «здараліся» ў яго побач з напісаннем артыкулаў, манаграфій, «Паэтычнага слоўніка», перакладамі на беларускую мову паэтычных і празаічных твораў іншамоўных аўтараў. Агульнае, што іх аб'ядноўвае – гэта выяўленне любові да роднага кута, Бацькаўшчыны-Беларусі, яе людзей, да роднай мовы, жанчыны. У раздзел «Першапутак» увайшлі найбольш раннія па часе напісання творы. У раздзеле «Ружанец» у форме вершаваных карацелек, у тым ліку сатырычных, увасоблены роздум іх аўтара над некаторымі актуліямі нашага сучаснага жыцця.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4 Беи)**

ISBN 978-985-6824-66-4

*Вернай сяброўцы майго жыцця,*
*жонцы Таццяне Вячаславаўне Кабржыцкай*
*прысвячаю*

# ПОЛЮС ЦЯПЛА

Не раз я спазнаў
Пацалунак нірваны,
Адкрыта жыву,
Што ў душы —
Гавару,
Бо компасам сэрца
Заўжды скіраваны
На полюс цяпла —
Беларусь!

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

## МОЙ КРАЙ

Крамяны месяц выплыў на даліну,
Туман пуховы лёг на мурагі.
І вее бор старэчыя быліны
Паціху на зарэчныя лугі.
Кругом — ні зыку. У начным спакоі
Дрымота ўсё паспела апавіць.
І толькі Іслач, месячнай лускою
Аб куст тручыся, сцішна шапаціць.
Мне бачна ўсё: як пенныя сувоі
Нястомна ткуцца рупнасцю ракі,
Як, твар памыўшы першаю расою,
Ярчэй заззялі ў лузе светлякі.
Мой родны край, люблю цябе навекі,
Ты крылы у жыццё ляцець мне даў!
Калі б ты быў звычайным чалавекам —
Цябе сардэчна я б расцалаваў.
Паклон тваім і дням, і ночкам мятным,
За шчасце іх гатоў пайсці на смерць.
І хоць да песень, можа, я й не здатны,
Ды як жа пра цябе мне не запець!

*1958*

# РУСАКОСАЯ, СІНЯВОКАЯ
*(Песня)*

Ціха тупае зноў Белавежай
Лістапад па сцяжынцы лясной.
Асцярожна вятрыска свежы
Нарач гладзіць ласкавай рукой.
Туманы па-над Нёманам волкія,
Нібы статкі, плывуць пад гару.
Русакосая, сінявокая,
Прыгажуня мая Беларусь!
Пра шчаслівы твой лёс, нібы казку,
Сёння трубяць навокал вятры.
І стае табе хлеба і ласкі,
Каб сыноў і дачок адарыць.
А сябры завітаюць далёкія —
І для іх шчодры сцелеш абрус,
Русакосая, сінявокая,
Хлебасольная Беларусь!
Дзе ні глянь, завіхаешся ўсюды.
З-пад руплівай тваёй рукі
З Салігорска, ад сцен Нафтабуда
Рэха працы імкне напрасткі.
Гэта рэха, як бусел клёкатам,
Для цябе будзіць ранкам зару,
Русакосая, сінявокая,
Працаўніца мая Беларусь!

Лезлі ворагі чорнай навалай.
І ў той час, як палала й ралля,
Ты усюды, ва ўсім паспявала —
І дзяцей калыхаць, і страляць!
        Бараніла заўсёды, стойкая,
        І сябе, і сястрыцу Русь,
        Русакосая, сінявокая,
        Партызанка мая Беларусь!
На якой ні знаходзіўся б шыры,
Я прыйду да цябе, так і знай,
Толькі моваю матчынай шчырай
Ты здалёку мяне пагукай.
        Як малітву, ў часіну нялёгкую
        Тваё імя заўжды паўтару,
        Русакосая, сінявокая,
        Мая маці — мая Беларусь!

*1959*

# ГАМОНЯЦЬ СОСНЫ НАЛІБОКАЎ

Гамоняць сосны Налібокаў:
— я дакранаюся аблокаў,
Мяне віхуры не змаглі —
Мне мачтай быць на караблі!

Гамоняць сосны Налібокаў:
— Мне, невысокай, крутабокай
(Паклоны б'ю я долу нізка) —
Мне б стаць дзіцячаю калыскай!

Гамоняць сосны Налібокаў:
— Каб людзі скрозь ішлі у скокі,
Даўно я думку захавала —
Ажыць пад струнамі цымбалаў!

Гамоняць сосны Налібокаў:
— я не імкнуся так далёка.
Хай не пачую звон струны —
Патрэбны й дошкі для труны...

Гамоняць сосны Налібокаў...

*1963*

# ДУБ АДАМА МІЦКЕВІЧА Ў ШЧОРСАХ

Не раз пярун яго наводмаш
Паласаваў блішчастай шашкай,
Не раз за чуб хапаў і сівер
Рукой учэпістай і цяжкай.

Ды ён ніяк не мог памерці,
Пакуль патомак не дазнаўся,
Што тут,
Пад ім,
Паэт паэму
Пісаў,
З каханаю страчаўся.

І людзі,
Ўдзячныя за гэта,
Яго лячылі, як умелі:
І скрозь
Жалезнымі бінтамі
На целе раны
Завярцелі.

*1963*

# РАБІНКІ НА СЦЕНАХ КРЭЎСКАГА ЗАМКА

З крывымі гэткімі нагамі
Лаўчэй па роўнядзі б хадзіць,
З худымі гэткімі плячамі
Лепш па каменнях не блудзіць.

Яны ж,
Назло вятрам і страху,
Караскаліся дзень пры дні.
Там, дзе святло,
Дзе кружаць птахі,
Знайшлося месца для радні.

Рабінкі ззяюць.
Іх карэнні
Адвечны мур пераплялі.
Ім тут,
На сонцы,
Смак каменняў
Стаў саладзей за смак зямлі.

Калі ж віхор ліхі застогне,
Захоча дрэўцы ўніз спусціць,
Яны лепш самі — у бяздонне,
Чым стануць зноў
Пад мурам жыць!

*1960*

# АСЕННЯЕ

Адсвяткавала восень імяніны:
Абтрэсла звычна ў садзе ўсе плады,
Заказытала ў носе свежанінай,
Пакаштавала моркаўку з грады.
Жарства дажджу — халодны дотык сталі.
Сівой тугою цягне ад палёў.
Да болю горла спазмы пасціскалі
У адляцелых рана жураво̆ў.
Праклыпаў трактар па пажоўклых травах.
Агнём мядовым верас не гарыць.
А у бярозак, модніц кучаравых,
Завіўку трэплюць злосныя вятры.
Зямлю чакаюць блізкія нягоды...
Ды паглядзі! — і ў гэткую пару,
Як абнаўленне вечнае прыроды,
Зазелянела маладая рунь!

*1959*

## ВОЗЕРА КРОМАНЬ

Настоенае ў шуме баравым
На водары верасавым,
На лекавым чаборы і на сонцы,
Яна — бальзам ад грыпу
І ад стронцыя.
Яно — віно прадзедаўскае наша,
Што ціха плешча ў край зялёнай чашы.

*1963*

# ПІЛОТЫ

Неба параспісвалі пілоты
Распісам адменнейшай работы.

Працавалі золкам, што гравёры,
За сабой пакінулі узоры.

Потым сонца, ледзь з-за лесу ўстала,
Промнямі узоры фарбавала.

І яны над ранішнім пасёлкам
Зазіхцелі колерам вясёлкі.

Хвалі іх азёрныя гайдалі,
Ім насустрач вокны адчынялі.

А пілоты, памахаўшы крыллем,
Павялі дадому эскадрыллю.

Адрас не пакінулі ніякі —
Сціплыя, не трэба ім падзякі.

Не назвалі нават нумар часці,
Толькі сэрцы расчынілі насцеж.

Зніклі, хараство стварыўшы людзям.
І ніхто імя іх знаць не будзе,

Як і продкаў, што калісь на кроснах
Ткалі ў Слуцку ўзоры родных вёснаў.

*1962*

# ПАДРЫЎНІКІ

Не моўкнуць грымоты у лесе,
Ад выбухаў — рэха ў бакі.
Змянілі сваю прафесію
Мінёры-падрыўнікі.

Здаецца, ляцелі учора
Асколкі ад цягнікоў,
А сёння ляцяць да зораў
Кавалкі смалістых пнёў.

І ходзяць між тымі пнямі
Дзядзькі — падшыванцам аж страх! —
З маланкамі і грамамі,
Заціснутымі ў руках.

Вусатыя, дужыя, рослыя,
У працы, ў ядзе — за двух,
Прыткнуць да шнура папяросу
І праз хвіліну — бу-у-у х!..

За імі спяшаецца вецер,
Каб эстафету прыняць.
Шкада, што не ўсюды на свеце
*Такія* грамы грымяць.

Не моўкнуць грымоты у лесе,
Ад выбухаў — рэха ў бакі.
Помняць сваю прафесію
Партызанскія падрыўнікі.

*1959*

# РАДКІ, НАПІСАНЫЯ ПАСЛЯ ВУЧЭБНАЙ ТРЫВОГІ

Вось так аднойчы пракрычаць «трывогу»,
Трывогу баявую на зары,
І будзе зноў ваенная дарога,
І будзе смерць, і будзе перамога –
Кругаварот паўторыцца стары.

О век дваццаты! Хіба толькі гэта –
Тваіх сыноў украдзены спакой –
Перадасі далей, як эстафету,
Другім вякам і сыдзеш мірна ў Лету –
Тым застанешся ў памяці людской?

Ці, можа, на Зямлі, дзе многа плесні,
Дзе чыстаган знайшоў сабе рабоў,
У дзень адзін, пагодлівы і веснi,
Ты пахаваеш радасці і песні
Пад чорным ценем атамных грыбоў?

О век удач, надзей, расчараванняў,
Скрозь цемру бур вядзі нас да святла!
Мы ўсе трывогі выцерпім дазвання,
Адно – каб тая, што узніме ўранні,
Сапраўднаю трывогай не была.

*1965*

# ОДА ЗАХАЛЯЎНАЙ КНІЖЦЫ

*Тарасу Шаўчэнку*

Многа ёсць рэчаў, якія хвалю,
Якія заўсёды слаўлю я.
Сёння табе я пяю хвалу,
Кніжка мая захаляўная.

Ты — найшчырэйшая думка мая,
Слова маё запаветнае,
Песня мая, і радасць мая,
Самая светлая.

Хоць і нядаўнія мы сябры,
За тваю службу слаўную
Я ад нягод цябе ўсіх прыкрыў
Моцнай кірзою халяўнаю:

Ад ветраніцы, сляпых дажджоў,
Бед і жыцця гаротнага,
Слотных шляхоў, па якіх ішоў,
І... ад начальства ротнага.

І хоць не ўсюды змагла ўратаваць
Схованка самая скрытная —
Пыл, што ў паходах прыйшлося глытаць,
Часам і ў строфах паскрыпвае;

І хоць нялёгка падчас зразумець,
Як жа магло гэтак здарыцца:

Звонкі радок, што павінен грымець,
Раптам тугою захмарыцца –

Знаю для вершаў з вайсковай сям'і
Стала найлепшай калыскаю
Ты, што да мараў і думак маіх
Самая блізкая...

Дзякуй табе, з кім я разам сталеў
У ліставерці і замеці!
Хай блаславўляецца кожны мой спеў
Шаўчэнкавай памяццю!

*1965*

## ЗЕМЛЯКАМ

З усіх шляхоў імкнуся я дадому,
Як падарожнік спёкай да ракі,
Бо тут — да болю міла ўсё, знаёма,
Бо тут — аднавяскоўцы-землякі.

Яны — рака, а я з ракі той — кропля.
Мне дорага усё, што люба ім.
Я рады, горды — гэта з намі поплеч
Майстэрства крочыць крокам маладым.

Для землякоў ганчарства — не ў навінку:
Свая і кафля, і збаны свае.
Жанчыны сонцам вышыюць хусцінку,
Каваль захоча — Месяц адкуе!

Не дзверы — цацка выйдзе з-пад рубанка...
А хіба знаўца рэчаў, іх цаны
Не еў калісь смаргонскіх абаранкаў
І ракаўскія арфы не цаніў?!

І гэтак павялося тут спрадвеку:
Валёнкі зваляць — проста не знасіць,
На ворага пакрыўдзяцца — навекі,
А што палюбяць — з тым не разлучыць!

Я добра знаю, з гэтае прычыны
Так боязна па нашае раллі
Блукала фашыстоўская скаціна,
Чужынцы уладарыць не змаглі.

Бо крыўду, што на іх тут затаілі,
Як перуноў, нічым не супыніць,
А так, як мы Радзіму палюбілі,
Магчыма толькі маці палюбіць.

Працуюць людзі для зямнога раю,
Па злу наводмаш рубячы з пляча.
І зорыць радасць над бацькоўскім краем
Маіх аднавяскоўцаў-ракаўчан.

*1959*

# ЗЕМЛЯКОМ СВАІМ Я ГАНАРУСЯ

*Янку Купалу*

Земляком сваім я ганаруся.
Ён уліў у песню сэрца жар.
Наш Купала славу Беларусі
Словам срэбразвонным памнажаў.
Словам тым, што ў час былой нядолі
Клікала за праўду йсці у бой,
Каб ліхіх часін не стала болей,
Каб лунала шчасце над зямлёй.
Ганаруся словам тым, якое
Заклікала светлых дзён прыход.
Гэта слова сэрца маладое
Навучае, як любіць народ.
Наш Купала песню склаў такую,
Для якой нішто стагоддзяў час.
Яго голас мы заўсёды чуем,
Хоць яго няма даўно між нас.
Земляком сваім я ганаруся,
Ён уліў у песню сэрца дар.
Наш Купала славу Беларусі
Словам срэбразвонным памнажаў.

*1957*

# ПА ДАРОЗЕ Ў СТОЎБЦЫ

Цягнік, наказ наш улічы:
Званчэй па рэйках лязгай,
Хутчэй да Стоўбцаў даімчы –
Зрабі такую ласку!

Мы ўсёй студэнцкаю раднёй
Спяшаемся, дзе калісь
Над шчодрай роднаю раллёй
Узняўся буйны
Колас.

Нам зерні з Коласа таго,
Як іскры, ў сэрцы ўпалі
І там збудзілі зніч-агонь,
Навечна запалалі.

Хай ліўні льюць, імжыць імжа
Ў жыццёвай кругаверці,
Ды той агонь
І ста дажджам
Не вымыць з нашых сэрцаў.

Палаць яму штодзень, штогод.
Нам шчасце ж адгукнецца,
Калі й другім каля яго
Захочацца пагрэцца.

Дык ты імчы, цягнік, імчы,
Званчэй па рэйках лязгай,
Да Стоўбцаў шпалы падлічы –
Зрабі такую ласку!

*1963*

# СУСТРЭЧА

*Якубу Коласу*

Дзе Вы, дзядзька якуб?
Я прыехаў, каб з Вамі сустрэцца.
Мне сказалі ў Ластку,
Што пайшлі яшчэ з ранку ў грыбы.
Ціхі смутак кляноў,
Як далонь,
На плячо мне кладзецца,
І у шлях благаслаўляе,
І тут жа ўсцяшае нібы.

Перастукі дзятлоў –
Перамовы лясных інжынераў...
Стой, імгненне!
Між соснаў
У простым сівым кажушку –
Ён, ён, дзядзька якуб!
Рэжа грыб...
Можа, трапіў на неруш?
Зноў нагнуўся...
А я?..
Хіба ж льга замінаць грыбніку?!.

Дзе Вы, дзядзька якуб?
Я хачу-такі з Вамі сустрэцца.
Мне сказалі ў Альбуці,
Што, вуды узяўшы, пайшлі...

Зноў, фарбуючы воды,
Зара ў Нёман
Льецца і льецца
Дзесь у далечы дальняй,
На самым акраі зямлі.

Бераг стромы.
Віры
Шчупакі асцярожныя водзяць...
Божа!
Вунь і яны!
Пэўна, побач няўрымсны Антось...
Толькі ж лепш пачакаю,
Не стану цяпер падыходзіць:
Можа рыбу спалохаць
Нягаданы гэтакі госць.

Дзе Вы, дзядзька якуб?
Я змагу ўрэшце з Вамі сустрэцца!
Мне сказалі у Смольні,
Што косіце Вы паплавы...
Знічка долу спадзе
І у сотнях расінах мільгнецца,
І сама расцярушыцца
Ў шчэцці калючым травы.

Сёння раніца росная.
Косы ўсё прагнуць атавы.
Трэці раз Вас пазнаў!
Не ўзнімайце сабе галавы —

Я пазнаў Вас па росце,
Плячах,
Па узмахах рухавых...
Ды аклікваць не буду:
А што, калі гэта
Не Вы?!

*1963*

# ВЯРТАННЕ

Зямля мая даўно спазнала
Цану няўдзячнасці людской.
Прабач сягоння: як вандалы,
Мы часта зналіся з табой.

Давалі грамы, бралі – тоны
(як ты магла трываць далей!)
І наракалі, што батонам
Не часта пахла на стале.

Цябе парадай суцяшалі
Усіх адценняў дактары,
Цябе няшчадна шрамавалі
Не плугары,
А махляры.

А ў гэты час сыны і дочкі
Тваёй спрадвечнае радні,
Наспех развітваўшыся, ў прочкі
У горад беглі з родных ніў.

Там асаджалі камароўкі,
Піўнушкі – крыўду наталіць,
І гандлявалі газіроўкай
На шумных вуліцах сталіц.

Ніхто не думаў пра здароўе
Тваё, пра твой нялёгкі лёс,
Пакуль хранічным малакроўем
Не захварэла усур’ёз...

Зямля мая!
Я сёння — лекар,
Я — сын, дарадца, сябар твой.
І моц, і розум чалавека —
Глядзі — ляжаць перад табой.

Прабач, калі дзе-кольвек схібіў,
Даруй прагрэшнасці, малю.
Тваю спрацаваную скібу
Да губ патрэсканых тулю.

Цябе выслухваю, выстукваю,
Хоць знаў дыягназ і раней.
Лячу: завод азотнатукавы
Гудзе у роднай старане!

Я знаю: ты за ўсё, што робіцца,
Аддзячыш мне ў сваю пару —
І за дары зямлі старобінскай,
І за цяпло спагадных рук.

Пакуты болю і сумлення
Я за цябе прыняць гатоў,
Каб толькі зелена струменіла
Ў тваіх засмяглых жылах кроў.

Каб зноў не стрэла лёс сірочы,
Каб скрозь — разлогі збажыны,
Каб павaрочаліся з прочкаў
Твае заблудлыя сыны.

*1965*

# БРАХІКАЛАН ЧАКАННЯ

Мы
рабы
арбы.
Я,
што вол
рабы,
свой
ару
загон,
сею
жыта,
лён
ледзь
зіма
на згон.
Толькі ж
дзе мой
плён?

Мы
гарбы
гарбім.
Ты
станок
зрабіў,
я —
пракатны

стан
і —
героем
стаў.
Але
што
далей?
Зноў
адзін
ялей...

Мы
сяўцы
надзей,
новых
дум
і дзей:
вучым
мы
дзяцей,
лечым
мы
людзей.
Смех
і плач,
і віск...
Толькі ж
дзе наш
зыск?

Мы
рабы
арбы...
Мы
гарбы
гарбім...
Мы
сяўцы
надзей...
Толькі ж
дзе наш
плён?
Толькі ж
дзе наш
зыск?
Зноў
адзін
ялей...

# ПРА «ПЕРАБУДОВУ» І «ПАСКАРЭННЕ»

— Чуў, Улас,
Што ты цяпер
Старшынюеш дома.
Перамена для цябе
Добрая, вядома.
Раскажы ж, дружбак Улас,
Як з перабудовай?
Як мацуеш свой калгас
Ты пры ўладзе новай?
— Ды нішто сабе, Панас,
Не набедаваўся.
Кажуць: «Трэба!» —
І я ўраз
Перабудаваўся.
Пад дажджом і так не мок.
Пакумекаў троха,
Потым свой збурыў дамок
І — катэдж адгрохаў.
Ўсе кругом:
«Пачні з сябе!»
І пачаў, раз трэба.
З цэглы маю дом цяпер,
Ну, а быў жа — з дрэва...
— Во даеш!.. — гукнуў Панас
З подзівам-здзіўленнем. —

Ну, а як жа ты у нас
Ладзіш з паскарэннем?
— я і з гэтым — будзь здароў! —
Разабраўся жыва:
Так «паскорыў» муляроў —
За тры дні злажылі!..

*1985*

## МАЯ РАКА

Сярод рэкаў,
З якіх прычашчаўся ў жыцці,
Ёсць адна,
Прад якою укленчыць гатовы.
Цераз сэрца маё
Ёй плысці
І плысці
І плысці,
Той рацэ
З найласкавейшым іменем —
Мова.

Пад пластамі вякоў
Яе сэрца натруджана б'ецца,
Не стамляецца біцца
Ні золкаю ноччу, ні ўдзень.
Чым далей ад вытокі —
Шырэйшае рэчышча ўецца,
Убіраючы кожнай крыніцы
Сустрэчны струмень.

Шмат хвароб невылечных
Адужвае толькі яна.
Да яе ты прыдзі
І зачэрпні у прыгаршчы сіні —
І нібы ад віна,
Ад прадзедаўскага віна,
Разальецца па целе бадзёрасць,

І радасць,
І сіла.

Продкі ведалі добра
Пра гэты гаючы бальзам,
Ад якога й смяртэльную рану
Зацягвала ўрэшце.
І бруілася хваля,
Крыштальная, быццам сляза,
Каля іхніх сяліб,
Ад Смаленскай зямлі
Да Бярэсця.

Я шаную цябе,
Мая радасць,
Мой гонар,
Мой боль.
Я цябе берагу
Ад урокаў,
Ад злое намовы.
Хочаш — стану сасной,
Прахалоду прыкрыю сабой,
Каб ты спеўна плыла,
Каб ты пэўнай была,
Мая Мова.

Ты дазволь — прарасту
Ля тваіх шматпакутлівых хваляў,
Вершалінаю хмары ззаву —
Хай залевы прадуць.

І вятры-сухавеі,
Што лёгка цябе пахавалі б,
Назаўжды прападуць,
Нібы здань,
Назаўжды прападуць.

Гэтак буду стаяць,
Твой ахоўнік,
Твой верны таварыш:
Пада мною — крышталь
(Ці людская сляза?
Ці вада?),
Злева —
Далеч вытокі,
Адкуль ты плывеш-выплываеш,
Справа —
Шыр акіяну,
Куды ты ўпадаеш.
Куды табе вечна
Ўпадаць!

*1963*

# МОВА
*(Двуверш)*

## 1. Падземная мова

Аб’явы ў мінскім метро пастаянна гучаць на прыгожай беларускай мове.

У метро
Схавана наша мова.
Ты яе
Знявагай не крані!
Толькі помні:
Тым магутней крона —
Чым глыбей
Пранікні карані!

## 2. як жар нязгасны...

Як жар нязгасны ў прыску —
Наша мова:
Нягода —
Ціха ў попеле
Маўчыць,
А свежы вецер
Зноў дыхне
Вяснова —
Прахопіцца,
Заззяе,
Зазырчыць!

## ЭДЭЛЬВЕЙС

Ты слёзаў утрымаць не здолела –
На травах бліснулі расой,
Калі развітваўся ля Століна
З табой, Радзіма, раніцой.

А тут як хараша!
Ігліцаю
Знікаюць znічкі на кастры
І недзе ўверсе, над Блізніцаю,
Блукаюць белыя вятры.

Ды я ад сноў, ад рук цяпельцавых
Ізноў іду,
Дзе змрок, дзе лес.
О дзе знаходзішся цяпер цана
Маіх вандровак – эдэльвейс?

Каторы дзень надзея мацае
Кавалкі голых крохкіх скал,
Вандруе стромамі карпацкімі,
Штурмуе кожны перавал!

А там, за сотай хмарай волкаю,
Перад загадкаў мітульгой,
Даўно чакаеш, сінявокая,
Пялёсткаў смеласці маёй.

І я гатовы зноў караскацца,
Абдзёршы веру да крыві,

І не зважаць у змозе радаснай,
Дзе шлях падоўжыў, пакрывіў.

Ты ж толькі ўсіх блуканняў стомленасць
Гаючым ветрыкам абдуй,
Калі да ног òâàiõ ля Століна
Я кветку гэту пакладу.

*Карпаты, 1962*

# НА РАЗВІТАННЕ З БАЛГАРЫЯЙ

На моры шціль,
На моры шціль,
А дні ідуць на спад.
І ўжо нішто –
Ні цвіль,
Ні гніль
Не закране прысад.

Яны стаяць уздоўж дарог.
А ты – як аўтабан.
Не поўня – месяцавы рог
Залоціць Чыракман.

Галінка Сітца сэрцу шлях
Паказвае здаля.
Бывай, балгарская зямля,
Прытульная зямля!

Пачнецца хутка лістапад
Падзей,
Спакус і
Дзіў.
Ды застанецца строй прысад,
Якія я садзіў.

*Каварна, 1998*

# ДЗВІНА – ДАЎГАВА

Днепр – Дняпро – Дніпро
І Даўгава – Дзвіна, –
Як нацыяў паром.
А доля ў нас – адна!

І *мова*, і *язык*,
І *калба*, і *валода*...
Як да якой хто звык,
З маленства авалодаў.

Пялёсткавых завей
Клубіцца дым гаркавы.
Спявае салавей
Адзін на дзве дзяржавы.

Дзе ты цяпер жывеш –
Вялікая, брат, розніца.
Душа ж не знае меж,
Душа – не падарожніца!

*Даўгаўпілс (Дзвінск),1999*

# НА СВЯТОЙ ЗЯМЛІ

Ні бярозы, ні таполі, ні сасонкі –
Толькі дзюны, толькі скалы і дрыгва,
Ды быльнёг, чартапалох калюча-гонкі,
Ды хамсіны-сухавеі, трын-трава.

Ні сасонкі, ні бярозы, ні таполі –
Толькі мора, толькі спёка, толькі плёс,
Ды каменнямі засеянае поле,
Ды сахарскі ядавіты жаўтапёс.

Ні таполі, ні сасонкі, ні бярозы –
Толькі слёзы, толькі бедаў калаўрот,
Ды суседзяў несканчоныя пагрозы,
Ды адвечны недарэчны закалот.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ні бярозы, ні таполі, ні сасонкі –
Толькі пот, што палівае траў кілім,
Толькі праца ды майстэрства подых тонкі:
Віфліем і Залаты Ерусалім.

Ні сасонкі, ні бярозы, ні таполі –
Толькі Госпадам прадвызначаны лёс
Стаць калыскай чалавечай долі-волі:
Іегова, Мухамед, Ісус Хрыстос.

Ні таполі, ні сасонкі, ні бярозы —
Толькі вера, толькі тора з году ў год,
Ды адроджаны іўрыт, што выцер слёзы,
Ды рэальнасці жывой метамарфозы:
Не натоўп і не насельніцтва —
Народ!

*Ізраіль, 2000*

# ТРЫЗУБ

*Украіне ў гонар 10-годдзя яе незалежнасці*

«У Украіне светлай,
Дзе я ўміраю,
У белым доме,
Ля сіняй бухты...»
Мне здаецца,
Менавіта так
Пачаў у ялце
У маі 1917 года
Свой апошні верш
Максім Багдановіч,
Прароча ўбачыўшы
У жоўтай дзянніцы
Блакітнага неба
Над вяршыняй Ай-Петры
Украінскі Трызуб.

*Кактэбель, 2001*

# ПАН У СВАЁЙ ХАЦЕ

Кожны, дурань ці разумны, –
Пан у сваёй хаце.

*Янка Купала*

Я у Расію, Украіну –
Клянуся небам! –
Не толькі каменем не кіну –
Не кіну хлебам.

Дружу я з Латвіяй і Польшчай,
На «ты» з Літвою.
Мне не патрэбна долі большай,
Чым жыць раднёю.

Адно прашу вас, пабрацімы:
Зла не трымайце,
Маёй любоўю да Радзімы
Не пагарджайце!

Адно прашу, браты-народы,
З агнём не грайце,
Маё імкненне да свабоды
Не зневажайце!

У гэтым свеце жорсткім, тлумным,
Хачу я, браце,
Каб кожны –
Дурань ці разумны –
Быў пан
У сваёй хаце.

# ПАЛІГОН

О Беларусь!
Каханка нябёс,
Загадка-мадонна!
За якія грахі
Асудзіў цябе Бог
На лёс
Выпрабавальнага палігона?

Хто ні таптаў,
Ні дратаваў
Палеткі твае нявузкія!
Татары і прусы,
Немцы, французы,
Палякі і рускія...

Ніводная з войнаў —
Айчынных, сусветных —
Не абышла цябе:
Пляжыла і мярэжыла.
Цела твaё
Цары,
Каралі,
Генсекі
Чацвертавалі,
Палавінілі —
Верамі,
Мовамі,
Дзяржаўнымі межамі.

Дзівіцца свет:
Што табе памагае?
Пацеры ці замовы?
Што за краіна,
Што за такая?..
Зніклі
Дзяржавы,
Народы,
Мовы —
Яна не знікае!

О Беларусь!
Колькі вякоў
Палігоннасць трывае!
Лязгае кратамі,
Хітрасцю кратае...

Вось ізноў
На табе
Выпрабоўваюць трываласць:
Адны — дэмакратыі,
Другія — нацыі,
Чарнобыльскі чорт —
Чалавечай папуляцыі...

*1998*

# ЗВЕСТАВАННЕ

*(Ля помніка Максіму Багдановічу)*

Калі я йшоў скрозь тую арку,
Дзе колісь дом яго стаяў,
Грачыны грай грымеў над паркам
І снежным пухам ападаў
        На тэатральны дах пакаты,
Тралейбус, што імкліва бег,
На транты выцвілых плакатаў
З аскомінным «Вперед к побе...»,
        На кроны дрэў маркотна-зімных,
На шпіль, што высіўся здалёк,
На твар зажураны Максіма,
Яго настылы васілёк.
        Здавалася, канца не будзе
Вятрам, шо сівер валакуць,
Хоць сакавік ужо — не студзень,
Хоць гэта Мінск, а не якуцк.
        Было няўтульна, золка, сумна...
Ды тут — усім вятрам назло —
На пляц Парыжскае Камуны
Людское мора прыплыло.
        О дзень жаданы Звеставання!
Світальнай вестачкі каўток.
Надзей вясновых клекатанне.
Буслінай радасці выток.

Куды настрой падзеўся горкі?!
Развеяліся страху сны
Ад першай роднае гаворкі,
Ад блізкай — з жарсцю — гаманы.
Парадавацца з намі ўсімі
З-за хмараў выглянуў прамень.
Няўжо, няўжо настаў, Максіме,
Той залацісты, ясны дзень?
Пагоні чутна гарцаванне.
Як мацаванне мар яго —
Людскога мора хваляванне
Пад зыркім полымем сцягоў.
Прынеслі з Пінска і Гародні —
Не толькі з Мінска — землякі
І сэрцаў жар высакародны,
Й вачэй расцвілых аганькі.
Сышлася Беларусь-Радзіма
Пачуць, адчуць, спазнаць, сказаць...
І ўбачыў я: на твар Максіма
Узбегла радасці сляза.

*Мінск, 25.03.2000*

# УВАСКРЭСНІ, НАРОД!

Народ, Беларускі Народ!
Ты цёмны, сляпы, быццам крот...

*М. Багдановіч*

Хрыстос уваскрос!..
Скора ж і ты ўваскрэснеш!

*С. Палуян*

Уваскрэсні, Народ, Беларускі Народ!
Ты, што цёмны, сляпы, быццам крот!
Бо няўжо не спазнаў і за гэтулькі год:
Той, хто піў тваe слёзы і пот,
Краў мазгі, кроў глытаў, кідаў волю за дрот,
А каб крыкнуць не змог — кляп у рот, —
Той і сёння жыруе, кліча: «С нами вперёд!»
І ліе словаблудлівы шрот?

Уваскрэсні, Народ, Беларускі Народ!
Занімай свой пасад між яснот і даброт,
Покуль нейкі прыблуда ці свой жываглот
Не ўхапіў твой прыплод, твой гарод і завод.
Хіба гэтак упудзіў цябе хітры зброд,
Што не страшны здаецца й чарнобыльскі звод?
Хіба можаш маўчаць, калі зноў, як штогод,
Тваё цела й душу дзеляць Захад і Ўсход!

Як Хрыстос уваскрос, уваскрэсні Народ!
Ўжо прадзе тваю долю падзей калаўрот.
Ты — зямлі гаспадар! Скінь адвечны прыгнёт!
Вось твой герб, і твой сцяг, і твой гімн,
і твой фронт.
Бяры зноўку сяўню, слухай Бога, як Лот,
Зерне лёсу рассей, сам збяры намалот,
Каб на векі на вечныя, з роду у род,
Ты быў вольны, багаты, відушчы Народ!

*1994*

## ВЕСНАВОЕ

І дзень — вятры,
І два — вятры,
І сонца ані гляне.
Ды што б тут хто ні гаварыў —
Вясна усё ж настане!

Даўжэе дзень,
Яснее цень,
Надзеі вырастаюць.
Усмешкі сонечнай прамень
На вуснах не растане!

Зноў жаўрукова гімн вясне
Гучыць не ў паняверцы.
І адтае нявер'я снег
Ад знуджанага сэрца.

Дарогі ў прошлае няма,
Ранейшы холад згіне,
Хоць тройчы клятая зіма
Яшчэ не ў дамавіне.

І дзень вятры,
І два вятры
Імжою востра джаляць.
Ды — глянь! — зялёныя кастры
Вясна на дрэвах паліць.

*1965*

# КУПАЛАЎСКІ ТРЫПЦІХ

1.

Кожную жылку
Сваіх патрэб
Прасвечваю
Вашых ідэй
Святлом.
Не на куце ў мяне
Ваш партрэт,
А над рабочым сталом.

2.

Каб нас ніхто не ўрок
І пошасць не зламала,
У нас адзін Прарок —
Купала!

3.

Купалаўскі кліч
«Жыве Беларусь!» —
І ў сэрцы,
І ў галаве.
Ты толькі не бойся,
Ты толькі не трусь:
Жыве Беларусь,
Жыве!

# Я — МЕСЯЦ ТВОЙ

## Я — МЕСЯЦ ТВОЙ...

*Т. К.*

Я — Месяц твой, а ты — мая Зямля.
Палон салодкі высненай арбіты!
Кругі, кругі сасновага камля —
Шляхі, што намі пройдзены, нібыта.

Кругам перасячыся не дано,
Ім лёс наканаваў размежавацца.
Той лёс — на чорны лес! Мы ўсё адно
Не аддаляцца будзем, а зблiжацца.

Звініць арбіт напятая пятля
І лопаюць законы прыцягнення.
А там — і гром, і светапрадстаўленне,
І слодыч непаўторнага імгнення,
І ціша, што надыдзе спакваля

Я — Месяц твой, а ты — мая Зямля.
Хто першы сыдзе са сваёй арбіты?
Глядзіць спакойна-велічна здаля
Яго вялікасць Сонца, як арбітр...

*1967*

# НАДПІС НА ПАДАРАВАНАЙ КНІЖЦЫ

*Тані Кабржыцкай*

Напэўна, салёная пырска марская
Ў Адэсе мне трапіла неяк у вока:
Ад Чорнага мора цяпер я далёка,
Але як сустрэчу з табой прыгадаю –
Мне кропля салёная зрок засцілае.

*Адэса – Мінск, 26.04.1962*

# ТЫ

Ты — расінка на кветцы.
Ты — слязінка на вейцы.
Расінка, ў якую глядзяцца
І сонца, і зоры.
Слязінка, ў якую сцякаюцца
Радасць і гора.
Знаю я даўгавечнасць расы,
Помню пра чалавечнасць слязы.
Добра ведаю, у жыцці
Шмат яшчэ давядзецца прайсці,
Каб праз холад заўчасных разлук
Зноў адчуць цеплыню тваіх рук.
Ды скрозь ростані ўсе
Пранясу
І слязу,
І расу.
Нешта прыйдзе і нешта мінецца,
Але ў сэрцы навек астанецца—
Расінка на кветцы,
Слязінка на вейцы.

*1965*

# ДОБРАЯ РАНІЦА

Добрая раніца! — Дзень прачынаецца.
Сонца, што ў росах купальскіх купаецца,
Чырванню наліваецца.

Добрая раніца! Ў гэткую раніцу
Лёгка спяваецца, хораша марыцца,
Верш запаветны складаецца.

Добрая раніца! Сваркі канчаюцца,
Зло прабачаецца, людзі ўсміхаюцца,
Ад таямніцы жыцця прычашчаюцца.

...я не стрываў — я прыйшоў гэткай раніцай
Аб запаветным з табою параіцца.
Добрай нам раніцы!

*1965*

# ПАРТРЭТ КАХАНАЙ

У маёй каханай вочы,
Нібы зоркі па вясне.
Яны сняцца і уночы
У маім нямоцным сне.

У маёй каханай бровы,
Валасы — шаўковасць траў.
Мова — гоман тапалёвы,
Твар — вясновая зара.

Стан яе дзявочы гэткі —
Як у лузе лазіна́...
Калі б скласці ўсе прыкметы,
Атрымалася б — вясна!

*1958*

# АБЦАСІКІ

Абцасікі — стук-стук.
Маё сэрца — грук-грук.

Абцасікі — цок-цок.
Маё сэрца — скок-скок.

Ды што гэта за падзея?
Гэта йдзе мая надзея!

Без надзеі цяжка жыць.
Як яе прываражыць?

Га! Абцасік не стукоча.
Маё сэрца жыць не хоча.

Абцасікі, стукачыце,
Маё сэрца ажывіце!

Зноў абцасікі — стук-стук.
Маё сэрца — грук-грук...

*1990*

# РАЗВІТАЛЬНАЕ

Паміж вуснамі нашымі
Сёння ляглі кіламетры.
А цягнік, што не ў час
Пацалунак згасіў развітальны,
Так імчыцца!
Як быццам бы хоча
Развеяць па ветры
Успаміны, мае успаміны –
Салаўіныя нашы світанні.

Гулка лязгаюць колы,
Кіламетры, гадзіны выростаюць.
Бераг новых сустрэч
Выплывае з няпэўнасці сноў.
І мне бачыцца, як
Скрозь тугу двухгадовае ростані
Нашы вусны няўмольна і прагна
Зближаюцца зноў.

*1965*

# ПРАЛЕСКІ

Неба ноччу пагубляла
Свой блакіт на ўзлеску,
А ўжо ранкам веснім рвала
Я пралескі.
Рвала кветкі, варажыла
На пялёстках кволых:
А чаму ж, чаму мой мілы
Невясёлы?
І чаму, як сонца ўстане,
Як і ночка нойдзе,
Да мяне ён не загляне —
Так і пойдзе?
Хіба ўжо нямілай стала
Явару каліна?
Ох, на гора пакахала
Я хлапчыну!
Адказалі мне пралескі,
Сінія каралі:
— Нездарма мы тут на ўзлеску
Зацвіталі.
Мы хацелі быць сабою
Весткаю чаканай,
Бо прыйшлі сюды з вясною
І каханнем.

Не сумуй жа так, дзяўчына,
І ні днём, ні ночкай,
Шчэ нашэпчашся, каліна,
З яварочкам.
Не прыспешвай; на каберцы
Поруч з мілым станеш.
Хай жа ў явара на сэрцы
Снег растане...

*1959*

# СЫМОН І СЭРЦА

Там, дзе рунь цямнее ў полі,
Шчабятаў Сымон Антолі:
 – Любая бясконца!
Для цябе, адной на свеце, –
Маё сэрца. Ты мне свеціш,
 Як другое сонца!

А увечары на ганку
Апусціла вочкі Ганка:
 – Сэрца – вось, з табою,
Мая радасць, мая Ганка.
Ты зацьміш ігру заранкі
 Пекнатой сваёю.

Пад разгалістай рабінай
Разгубілася Марына:
– Што тут доўга радзіць?
Бяры сэрца, дарагая.
Хай па мне пярун зайграе,
 Як змагу я здрадзіць!

Ды сухмень стаяла летам,
Перуноў не ўчуць праз гэта,
 Нават хмар не ўгледзіць.
І чуваць, як каля хлева,
І відаць, як каля дрэва
 Вусны мёдзік цэдзяць

Тані, Мані, Соні, Верцы:
— я табе дарую сэрца
І нікому болей!..

Так Сымон аддаць клянецца,
Так Сымон аддаць імкнецца,
Што не меў ніколі.

*1960*

# СОН

*Якубу Коласу*

Цэлы дзень
Па дажджы,
Покуль сон не асіліў,
Стому
Ў рукзаках за плячамі
Насілі.
Нарэшце далі нырца
У траву,
Стому падклаўшы
Пад галаву.
І ў мокрай палатцы
На гэткім ложы
Ўсялякае сніцца можа.
... Ляжу на пярыне.
Гэта — мая кватэра,
Уласная,
Камунгасная.
Шчыльна прычынены
Тоўстыя дзверы,
За якімі
Любы гук
Гасне.
У куце — пальма,
Як хвоя гонкая,
На стале —

Тэлевізар апошняй маркі.
А па пакоі
Пахаджвае жонка
(Пра гэткую
Я не адзін, мусіць, марыў:
Вочы сінія,
Косы русыя —
Нават і ў сне
Прыкмячаю!).
Нешта варожыць
Над белым абрусам
І «міла» мяне
Павучае:
— А што казала?
Хіба не знала?
Хіба на горшае
Я штурхала?
Сядзеў бы дома,
Еў бы кашу.
Не было б хрыпаў,
Не было б кашлю.
Ох, адчуваю,
Мяне ты ўходаеш
Гэтымі
Сваімі
Паходамі! —
«Міла» так кажа
І прычашчае
Гарачым

Малінавым чаем.
О, логікі сіла!
Гатовы я з жонкай згадзіцца.
Аглядваюся навакола...
З партрэта
Вачамі чысцей крыніцы
Глядзіць у душу маю
Колас...
Прачнуўся,
Ўсхапіўся,
У вушах — звон.
Ды радуюся,
Хоць пляскай у ладкі!
Як добра,
Што мокрая ёсць палатка,
Як добра, што гэта быў
Толькі сон!..

*1963*

# «ЭПІДЭМІЯ»

У палаце нас усіх чацвёра.
Кожны з нас па-свойму неяк хворы:
Славу — горла, Сашу — нос баліць, а Колю,
Як і Мішу, пад грудзямі коле.
Ды аднойчы ўбачылі ў палаце
Мы дзяўчыну ў беленькім халаце.
Дасць укол — адразу палягчэе,
Гляне — й нездаровы здаравее.
Што за рукі ў медсястры Галіны! —
Ні прастуды ў хлопцаў, ні ангіны...
Ды ўрачы ў спалоху:
Што такое? —
У хлапечых сэрцах... перабоі.
На рэнтген прасвечваць нас вадзілі.
Не ўсачыць прычыну. Што за дзіва?
А «прычына» — лепшая з дзяўчат —
Падыходзіць да другіх палат.
Толькі ў брата нашага і там
Сэрца ные, рвецца папалам,
Перабоі новыя ўзнікаюць
І — лякарства не дапамагае...
Эх, каб знalі гэткае ўрачы,
Не давалі б медсястры лячыць!

*1959*

# ШТО МНЕ ТОЙ ШЭКСПІРАЎСКІ ГЕРОЙ!..

Што мне той шэкспіраўскі герой!..
За сустрэчу новую з табой
Не паўцарства я гатоў аддаць —
Я гатоў жыццём ахвяраваць!
За сустрэчу, што так мала цэнім,
Хоць аб ёй пасля і летуценім...

*1963*

## У ТОНЯХ ТВАІХ ВАЧЭЙ

Мне люба жыццё
да апошняй драбніцы:
Клопаты дзён,
таямніцы начэй.
Мне самагубства
і ў сне не прысніцца,
І ўсё ж я аднойчы
хацеў бы ўтапіцца –
У тонях
тваіх
вачэй.

*1965*

# «АДГАДАЙ!»

Мароз
                пячэ
                        яшчэ
                                ямчэй.
Цішэе.
Раптам на хаду –
Рук жар
                над праблiскамi дум,
І сінь тваіх крыніц-вачэй,
Як лівень-дождж,
Як люты душ...

Ну, дабяруся ж я урэшце,
Адпомшчу,
Нешта удружу!..
А ты глядзіш,
А ты смяешся.
А я стаю.
А я дрыжу...

*1963*

# НА ПРЫСТАНІ «ШЧАСЦЕ»

Час настаў,
І аўтобус паціху ад’ехаў,
Нібы той карабель,
Што адчаліў ад прыстані «Шчасце».
І па Моры Кахання,
Па ўспененым Моры Кахання,
Набіраючы хуткасць,
Падаўся за небакрай...

Я стаю ля прычала чакання.
Спадзяюся, што ўздымецца бура
І вернецца гэты апошні
Надзеі маёй карабель,
Каб мне, што так вагаўся доўга,
Што так доўга на трап не ўзыходзіў,
Хоць круг выратавальны
Ў астатнюю хвілю падаць.

Але буры няма.
Заціхаюць за даллю маторы.
Пэўна, страты не ўбачыў
І спрактыкованы капітан,
Хоць трумы пустыя,
Хоць сум, што забраць ён павінен,
Ля прычала чакання,
На прыстані «Шчасце»
Застаўся са мной.

*1963*

# МОСТ

Ты уцякала ад сябе
На самы край зямлі.
Масты паліла, што здаўна
Між намі праляглі.

А я ішоў,
Ізноў ішоў,
Як цень, ішоў наўпрост.
Брадамі праў
І плынню плыў,
Калі быў спален мост.

Стаміўся,
Змогся,
Аслабеў
У той хадзе-вадзе.
А ты ідзеш,
А ты ідзеш,
І паліш і ідзеш.

Адзіны мост,
Апошні мост
Застаўся на рацэ.
Стаіўся сноп тугі агню
У карабку ў руцэ...

*1966*

# У РАЗЛУЦЫ

Па далінах, па узгорках
Сонца пракацілася...
Як, скажыце, я з Рыгоркам
З мілым разлучылася?

Ці то позна, ці то рана —
Сірата нібыта.
Ох, і цяжка быць каханай,
Шчэ цяжэй — пакінутай!

*1958*

# Я ХАЦЕЎ...

Я хацеў вянок санетавы
Прысвяціць табе адной,
Ды прадбачыў: мала й гэтага,
Каб была са мной.

Спрабаваў пісаць секстынамі,
Бо змясціць у іх бы змог
І прывабнасць неба сіняга
І палёў разлог —

Ды не ладзяць словы з рытмікай,
І сырыя, што з вады.
Ды і верша габарытнага
Не было б тады.

Трыялет не падыходзіў мне —
Паўтарэнняў шмат у ім.
А не толькі можна словамі
Стацца дарагім.

Перабраў я формы розныя.
І тады рашыў знарок:
Лепш прызнаюся ёй прозаю,
На пасля ж — радок.

*1957*

# ДАКОРЫ

Мяне дакараеш ты,
Лаеш ізноў безупынку:
«Сядзіш за сталом не гадзінамі –
Суткамі без адпачынку.
Чытаеш і пішаш...
Ні бацькі ў сям'і,
Ні мужчыны».
«Памрэш!» –
Вось твой вырак
Суровы і безапеляцыйны.

Калі і памру я –
Ці скора, ці, можа, няскора –
То не ад работы.
Ад гэтых бясконцых дакораў.

*1981*

## ЗАКЛЯЦЦЕ

У дальні, дальні замак, дзе сцяною —
Слупоў кіламетровых частакол,
Ад спраў нязбытных, клопатаў заўсёдных,
Ад думак дзёрзкіх, рызыкоўных дзей
І ад мяне
нарэшце
уцякла ты.
Ты рада.
Ты спакойная.
Смяешся...
Ды толькі ўсё ж не цеш сябе спакоем!
Я кожнай ноччу, нават самай ціхай,
У сон твой расчыню шырока дзверы
І стану ля парога, прапусціўшы
У вырай думкі, каб яны змаглі
На поўдзень майго сэрца шлях пракласці.
А ранак прыйдзе, стомлена прачнешся,
У сад свой зойдзеш, росы абаб'еш,
Ранет надкусіш — спелым пацалункам
На вусны лягу, жарсці абудзіўшы.
У хату прыйдзеш, хочучы забыцца,
Разгорнеш кнігу — голасам Рамэа,
Гарачым, прагным, вострым і пякучым,
Я пра пачуцці зноў загаманю.
Настане вечар, выйдзеш на падворак,
На неба глянеш — знічкамі знянацку
Асыплюся у тонь тваіх вачэй.

Ля грубкі сядзеш — коткаю прытульнай
Угрэюся на стомленых каленях
І у твае пудлівыя далоні
Шчыкотлівую песню прамурчу.
Спакой твой забяру і ўдзень і ўночы.
А калі ўсё-ткі зможаш ты часамі
Не спаць, і яблыкаў не рваць у садзе,
На зоры не глядзець і кніжак не чытаць,
І котку за парог прагоніш мокры —
Яшчэ я маю сродак свой апошні,
Надзейны самы...
Я да лістоў, што буду слаць табе,
Да кожнага, губамі дакрануся,
Каб хоць ад аднаго у дзень мой светлы
Змагла знячэўку вусны апячы...

*1965*

# СЛЯПЫ СНЕГ

*Тацяне*

Пытаўся люты: ці абуты?
Але ўжо дыхаў сакавік
І промень сонечны раскуты
Глядзецца ў Іслач зноўку звык.
О час юнацтва запаветны,
Калі і непагадзь не ў знак!
На сэрцы светла і прыветна,
Хоць і прадвесніцца няўзнак.
З табой да Іслачы мы выйшлі,
Што між пагоркаў і лагчын
Брую Бярозе несла ўвішна,
Не думаючы пра спачын.
А ў той бруі, як срэбра стронгі,
Прамень ільсніўся трапяткі...
І тут – на строй прысадаў стройных,
На голаў вербаў і ракіт,
На нас, нясмела-анямелых,
Бы ў фантасмагарычным сне,
Густы, пушысты, белы-белы,
Пасыпаў з неба лёткі снег.
Увесь нябесны зорны высеў
Сабраўся раптам навакол.
Мільёны зорак з божых высяў
На парашуціках – на дол...

Яшчэ ніхто не чуў пра стронцый...
Мы танцавалі пад сняжком
І, зажмурыўшыся ад сонца,
Лавілі зоркі языком.
О снег сляпы! як прывід нейкі!
А сэрца радасня пяе...
Сняжынкі падаюць на вейкі,
На вусны, локаны твае,
На лоб...
Ледзь зорачкі шчасліва
Крануцца вобліку твайго –
Я пацалункам хапатлівым
Іх зацалоўваю агонь.
...О, як даўно было ўсё гэта!
Па схіле коціцца мой дзень.
Дажджы ішлі сляпыя летам,
Цяпер жа снег сляпы ідзе.
Лятае снег і наліпае
На ўсё, што сэрцам варушу.
Каторы год ніяк не тае!
І – зноў сняжынка залятае,
Сляпая,
Проста у душу.

*2000*

## БЕЛАРУСКІМ ЖАНЧЫНАМ

Ні ў якіх пажарах,
Ні ў якіх залевах
Народ наш
Прыгожы
Не згіне,
Бо што ні дзяўчына ў нас —
Каралева,
А што ні кабета —
Багіня!

*1998*

# ПЕРШАПУТАК

## УЗІМКУ

Беленькаю коўдрай
Ўся зямля заслана
І празрыстым лёдам
Рэчка закавана.
        Нібы ў задуменні
Бор стаіць сасновы
І зіме пакорна
Пасхіляў галовы.
        Вераб'і пад дахам
Сядзяць у саломе.
А вось мне чамусьці
Не сядзіцца дома!

*1953*

# МОЙ СЯБРА

Прачнуўся я рана, ледзь сонца ўзышло,
Мяне разбудзіла праменняў святло.
Прачнуўся, памыўся, надзеў паліто...
Ды што там за голас з яблынькі той?..
Я радасці гэткай яшчэ не чакаў:
Пачулася ў садзіку песня шпака!
Я выбег на ганак — мой сябра сядзеў
На новай шпакоўні і радасна пеў.
З душой я для госця свайго працаваў
І домік адменны яму змайстраваў.
Сяліся ж, мой дружа, у хатку сваю,
Табе на ўсё лета яе аддаю.
Сяліся ў шпакоўню, спакойна спявай
І шкоднікаў поля, гарода знішчай.
Ты быў у далёкай, другой старане
І, пэўна, не думаў, не знаў пра мяне.
А я, брат, успомніў, што ты такі ёсць,
Што маецца быць у мяне вясной госць.
І вось ты, мой сябра, ка мне прыляцеў,
Ізноў на радзіму, як ты і хацеў.
Глядзі, вунь якая вакол цеплыня...
Сябрамі мы сталі ад гэтага дня.

*1955*

# НОВАМУ ГОДУ

Стары наш Год спраўляўся вельмі добра:
Вырошчваў слаўны ўсюды ураджай,
Сады разводзіў у пустынь прасторах
І упрыгожваў кветкамі наш край.
Ён узнімаў у стэпах цаліну
І залацістую расціў на ёй пшаніцу.
Ён на зямлі ўсёй стрымліваў вайну
І мацаваў дзяржаўныя граніцы.
Ён атам пераможна закілзаў
І электрычны ток пускаў па сёлах.
Дык дзякуй, Стары Год, што шчасце памнажаў,
Што столькі нам прынёс хвілін вясёлых!
А, Новы Год! Ты зноў стаў на парозе.
Дванаццаці чакаеш, каб зайсці?
Не, пачакай: параду на дарогу,
Наказ табе дадзім, пакуль ісці.
Краіне ў пуні тысячы пудоў
Насып ізноў янтарнае пшаніцы.
Няхай дзяржаву ніці правадоў
Перасякуць з граніцы да граніцы.
Настрой паэтам гучнаграйку-ліру –
Хай роднай мовай славяць родны кут.
Я веру: зноў ты будзеш годам міру,
А не пачаткам бедаў і пакут.

Я веру: будзеш ты адным з гадоў,
Які здзяйсняе нашы ўсе жаданні...
А, вось дванаццаць! Ты у шлях гатоў?
Ну, што ж, ідзі.
Да новага спаткання!

*1956*

# ЖЫЦЦЁ

Жыццё –
Нібы ружа:
Настойлівым, смелым
Сарваць дасць бутоны
Ў кусце самым колкім.
А хлюпікам толькі
Здалёк паалее
І кветкі схавае
Ў густыя іголкі.

*1958*

# БЯРОЗКА

Бярозку на лясной гары,
Як восень надышла,
Вятры,
Сцюдзёныя вятры
Раздзелі дагала.

Зіма ёй вэлюм стала шыць,
А холад азвярэў.
Яна ж , і голая, стаіць
Венерай сярод дрэў.

*1959*

# БАНАНЫ

К нам у Мінск у восеньскую слоту,
Калі шэрані, імжакі поўна,
Машыністы, маракі, пілоты
Скрынкі сонца перавезлі з Поўдня.

З іх струменіць тонкі пах духмяны,
Водар пальмавага краю льецца.
І таўпяцца людзі ля бананаў,
Каб ля сонца гэтага пагрэцца.

*1959*

# ВЕЦЕР

Абняцца з кожным дрэвам рады,
Свавольнік-вецер зноў і зноў
Перасцілае прасцірадлы
Перакалмачаных снягоў.
        Аж каміны загаласілі!
А ўсё аднекуль з-за імглы
Лятуць, імчацца з новай сілай
Паветра грузныя валы.
        Не ціхне вецер анізвання:
Уміг аббегае палі
І параскочвае старанна
Сувоі снежныя бяліць.
        Дачыста вымеце завулкі,
Пакіне ў рэдкалессі пні,
Пракоціць белыя качулкі —
Ды зноў узмые к вышыні.
        Нястомны, па зямлі гарцуе,
Бясстрашны, гойсае ўгары.
Трампліны новыя мацуе
Для нас на строміне гары.

*1959*

# ЁЛКА

Расла ты у лесе, штогод прыгажэла,
Мароз твае шчокі не раз апякаў.
Не раз ля цябе, сярод пнёў заімшэлых,
Воўк шэры трушком прабягаў.

Вятругі сцюдзёныя вылі начамі.
А змогі не стала больш холад трываць —
Лавіла ў завеі сняжынкі рукамі,
Каб снежны кажух змайстраваць.

Сягоння ж (ці марыла калісь пра гэта?!)
У люстранай зале, на радасць усім,
Стаіш ты, цяплом навагоднім сагрэтая,
І ззяеш убраннем сваім.

Навокала — песні, гулянкі і танцы.
У школу дарога цябе прывяла.
Ты ў лесе з юнацтвам паспела расстацца,
Тут — нават маленства знайшла.

*1959*

## СТАРЫ МЛЫН

Табе даўно, старэча,
На пенсію пара,
А ты крыху пакрэкчаш
І — зноўку тарарам.

Трава сухая звісла
З худых плячэй далоў.
Ты ўзяў за жабры Ісլач,
Як плотку рыбалоў.

Ля заставак трапеча
Спалохана рака.
Ды моцная — не збегчы —
Яшчэ ў цябе рука.

Твая бадзёрасць міла.
Але скажы: ў каго
Пазычыў гэткай сілы
Нягаснучы агонь?

Адкуль такі характар,
Гарэзнасць, неспакой?
Галдзіш нямоўкным трактам
І ў поўнач, і зарой.

Да працы рупнай звычкі...
І гэты тарарам...
Няўжо ўсё гэта ўзяў ты
Ад дзеда-млынара?

*1959*

# СЫМОНКА

Цэлы дзень, ажно ад ранку
Працаваў Сымонка.
З дошак пілкай і рубанкам
Майстраваў трохтонку.

Залатыя ў хлопца рукі,
Проста малайчына!
Хутка выйшла — глянуць люба! —
Новая машына.

Рада мама за Сымонку,
Тата радасць двоіць.
Толькі ж той не задаволен
Працаю сваёю.

Што машына? Па зямліцы
Коціцца памалу,
А ён хоча, каб у небе
Птушкаю лятала.

Ды што птушка? Хіба можа
Лётаць у сусвеце?!
А ён хоча, каб да зорак
Змагла даляцеці.

Каб на ёй ён даляцець змог
Да другой планеты...
— Лепей, — вырашыў Сымонка, —
Я зраблю ракету!

*1959*

# РАВЕСНІКАМ

На лёс нам, хлопцы, наракаць чаго?
Дарма, што не паспелі нарадзіцца,
Каб знаць, што й мы пад полымем сцягоў
Вяршылі лёс планеты ў навальніцах.

Глядзі, і мы плячо ў плячо — сцяна! —
Як і бацькі, ідзем, дзе змрок і сцюжа.
Дзе мы прайшлі, ўзнімае цаліна
Свае, вякамі высахлыя, грудзі.

Гарыць далонь ад кельмы, тапара,
Ды стогне, не прывыкшы да палону,
Знясіленая ў бойках Ангара
У логавішчы з сталі і бетону.

Не! Лёс і нам нямала прыбярог:
Ўзмужнелыя гадамі аднаўлення,
Упэўнена мы крочым за парог
Касмічных таямніц і летуценняў.

А на зямлі, дзе промні і снягі,
Насуперак вякам і цемрашалам,
Мячы перакаваўшы на плугі,
Мы сеем мір, каб шчасце забуяла.

Ільды карчуе атам у марах.
І мы ідзем па шчасце — нашу долю —
З уласнай нафты пахам на руках
І прысмакам старобінскае солі.

*1960*

# УРБАНІСТЫЧНАЕ

У горадзе і ўтульна, і прывычна,
Ды ўсё ж на тым лаўлю сябе падчас:
Калі я тут, сярод гудкоў фабрычных, —
Мне б глянуць на вясковае хоць раз.

А варта толькі выехаць за горад,
Прапахнуць медуніцай ля жытоў,
Як з нецярпеннем думаю:
Ці скора
Пачую зноўку музыку гудкоў?

*1960*

# ВЯДУЧЫ

Хай ногі ацяжарылі,
Што кожная — у пуд,
Хай у вачах — пажары
Ад вызнаных пакут,
        Хай смагай шлях замучае,
Хістаецца зямля —
Уперадзе вядучы
Праложыць першашлях.
        Ды зноў праз холад, непагадзь
Да мэты павядзе.
Закусіш губы нехаця,
Але за ім ідзеш.
        Гарамі і далінамі
Дарога пралягла.
Як вырай жураўліны,
З нас кожны — да цяпла.
        Вядучаму не лёгка —
За ўсіх адказ трымай.
Найгорш — не станеш войкаць.
Адно — параду знай:
        Адстанеш дзе на выгане —
Усе з табой.
Калі ж
Скрывіш дарогу —
Выганяць
І людзі, й жураўлі.

*1960*

# У ЖНІВО

Ад рання самага спачынку
Камбайн не хоча нізашто!
Я падстрыгаю «пад машынку»
Густыя кучары жытоў.
Хапае пасмы рупны хедар,
Наводмаш кідае ў нажы.
І там, дзе колас сонца зведаў, —
Іржышча вожыкам ляжыць.
А промень джаліць востры, яркі.
На дождж мядамі травы тхнуць.
І пецярнёй ніяк жняяркі
Не могуць стому адмахнуць.
Кашуля зліплася ад поту,
Ды ўсё здаецца ніпачым:
У бункер зерне сыпле шротам —
Гарачым, буйным і густым.
За ураджай такі багаты,
За гэты важкі намалот,
За жменю лішнюю зярнятаў
Гатоў не раз я сцерці пот.
Камбайн не хоча адпачынку,
Плыве па полі зноў і зноў.
Я падстрыгаю «пад машынку»
Густыя кучары жытоў.

*1961*

## Я НЕ БЫВАЎ…

Я не бываў
Ля сініх горных схілаў,
Дзе на вяршынях —
Проседзі снягоў.
Але з маленства
Нешта нарадзіла
Ў мяне да іх
І цягу, і любоў.

Быць можа, тое,
Што у горным краі,
Нібыта ў нашым
Клопатным жыцці,
Дзе пакарыць
Адну вяршыню прагнем,
Каб там ужо
На новую ісці?..

*1961*

# НАТХНЕННЕ

Дзе ты, крыніца гаючая,
Дзе ты, святло неўміручае,
Творчая радасць, гарэнне,
Сіла мая — натхненне?
        Мо незямнымі марамі
Дзесьці лунаеш над хмарамі?
Можа, вызвоньваеш краскай,
Будзіш знаёмаю казкай?
        Толькі не з кволымі кветкамі
Бачу цябе я — не з гэткімі!
Славіцца казачка з'явай,
Ды не зраўняцца ёй з явай!
        Ты ж маё, чуйнае, слушнае,
Ходзіш вясковай канюшняю,
Гойсаеш, хуткае, трактам,
Водзіш за вёскаю трактар.
        Світку змяніўшы спяцоўкаю,
Молатам грукаеш, цохкаеш.
І табе ў шуме фабрычным
Зноў жа і добра і звычна.

*1961*

# Я ЗНАЮ

За тоўшчай вёрст у небе перамерзшым,
Як марыва, трымціць сузор'яў дым.
Я, можа, буду першым, самым першым,
Хто закладзе ў галактыцы сады.

Усім так блізкі, ды не ўсім вядомы,
Каб новы шлях у космас пралажыць,
Сарвуся з паласы ракетадрома
Да дальняй і нязведанай мяжы.

І паімчуся у працяг вялікі.
Ды толькі, пакідаючы Зямлю,
Я разам з кнігай формул і разлікаў
З сабой Купалы томік захаплю.

Мне і ў дарозе неабходны вершы,
Як правіянт, як радыёмаяк...
Ну што ж, калі не я тым буду першым —
Ім будзе, знаю, гэтакі ж, як я!

*1961*

# ЦЯГНІКІ

У спёку, ў шалёную замець,
І ў рань, і як шэрань шарэе
Паскрыпваюць тармазамі,
Ляскочуць па белых рэйках —

Бягуць цягнікі усюды,
Падставіўшы грудзі ветру.
Не баючыся застуды,
Адлічваюць кіламетры.

Графікамі адмераны,
Іх час
        увесь час
                падганяе
У новы прасцяг неправераны
За лініяй небакраю.

Парваныя дыму гардзіны —
Убор прыдарожнаму грабу.
Мінаюць, бягуць гадзіны,
Нібыта слупы тэлеграфу.

Туга пачынае агортваць
У краі далёкім, ноччу.
Ды тут з-за крутога пагорка
Мільгаюць знаёмыя вочы.

Цягнік, апрытомнеўшы ледзьве, —
Аж рэха ідзе навокал, —

Як зубр, што зубрыху угледзіў,
Выгуквае радасны вокліч.

Адказ той жа самаю мовай
Абшарамі
  шчыра
    нясецца...
Сімфоніі цягніковай
Мне гукі ўплываюць у сэрца.

І я пры сабе заўсёды
Нашу гэтай шчырасці тоны —
Асіплыя ад непагоды
Басы і барытоны.
Як гэта надзвычай блізка,
Калі, не пытаючы звання,
Першым фарсун пасажырскі
Таварнаму шле вітанне!..

І ноччу, і раным рана
Імчаць цягнікі па дарогах.
Без тытулаў і без рангаў
Вітаюць адзін другога.

У іх галасах лунае,
Пяе чалавечае нешта...
Цябе я сустрэў,
Гукаю.
Няўжо ты
Не адгукнешся?..

*1962*

## ЯК НАША ІСЛАЧ…

Як наша Ісляч, быстрая заўжды,
Бяжыць і час, за днём плыве змярканне.
У кожным годзе — планы і жаданні,
І ўсё ідуць, ідуць, ідуць гады.

Здаецца, што зусім ты малады,
А ўжо прайшлі праз радасць хвалявання
І першы клас, і першае каханне,
І першае галенне барады.

Ды кожны год ты зноў у непакоі:
А можа, робіш у жыцці не тое,
Каб на зямлі пакінуць светлы след —

Свой знак быцця, сцяжынкі той пачатак,
Якой пайшоў бы сябра і сусед,
Якою не пагрэбаваў нашчадак?

*1962*

# КОЛЬКІ ПЕСНЯЎ...

Колькі песняў не прапета!
Колькі сэрцаў не сагрэта!
Колькі ласкаў не адчута!
Колькі думак не пачута!

Песняў — самых задушэўных.
Сэрцаў — самых зледзянелых.
Ласкаў — самых найпяшчотных.
Думак — самых запаветных.

А гады ідуць, мінаюць.
Рэкі ў мора выплываюць.
Буслы гнёзды абжываюць.
Буслы гнёзды пакідаюць.

А гады ідуць, мінаюць,
Скроні пухам прысыпаюць,
Што вясной таполі пушаць,
Што ўвесь час над лёсам кружыць.

А гады ідуць, мінаюць,
А гады напамінаюць:

Столькі песняў не прапета!
Столькі сэрцаў не сагрэта!
Столькі ласкаў не адчута!
Столькі думак не пачута!

Песняў — самых задушэўных.
Сэрцаў — самых зледзянелых.
Ласкаў — самых найпяшчотных.
Думак — самых запаветных...

*1963*

# СВІЦЯЗЯНСКІЯ РАКІ

Недарэчы прымаўка тут: Смаку —
Быццам бы у вараным тым раку.
Той, хто гэту прымаўку складаў,
Свіцязянскага не паспытаў...
Ты яго хоць крышку абвары,
І, здаецца, што зусім не клешню,
А ў руках трымаеш ты канешне
Сам скрылёк вячэрняе зары!
Ну і мяса! Соллю ледзь прысып—
І ад асалоды польку сып!
На яго — без жаднае акрасы —
Кожны ласы больш, чым на кілбасы...
Недарэчы прымаўка тут: Смаку —
Быццам бы у вараным тым раку.
Той, хто гэту прымаўку складаў,
Свіцязянскага не паспытаў...

*1963*

# НАПРАДВЕСНІ

Мне хочацца зноў напрадвесні
Такую сяўню узяць,
Каб поўнаю жменяю песні
Перад сабой рассыпаць.

Падзякі нат самай мізэрнай
Не трэба за прыгаршчы слоў.
Вось толькі б тых песняў
                    зерне
Ля сэрцаў людскіх лягло.

Я знаю,
Ёсць сэрцы — камень.
Ды веру, жыццё,
            табе:
Ты
    маладымі расткамі
Й каменныя
            прадзяўбеш!

*1964*

# ПЕСНЯ

Спачатку яна пачакала
Хвіліну, другую.
А потым забілася птушкай
Аб клетку грудную.
З грудзей маіх просіцца песня,
Як птушка, на волю.
Просіцца? Што, як абросіцца
На лузе, у полі?
Лёгкае пёрка прамочыць,
Зусім ахалоне?
Ад ветру ніхто не заслоніць
У цёплых далонях...
Выпусціць??.
Выпусціць?..
Выпушчу
На жытні палетак.
Дасхочу няхай напяецца
Пра волю, пра лета.
Мо, спевамі прычараваны,
Яе хтось прынадзіць —
Пяшчотна паглядзіць
І мяккія крыльцы пагладзіць.
Дыханнем у золкае ранне
Яе абагрэе,
Спеваў паслухае шчырых —
Душой падабрэе.

Тады хай сабе й не заўважыць
На ножаньцы кволкай
Пярсцёнак маленькі –
Той знак,
Што яе акальцоўваў
Я.

*1964*

# ВОПЫТ АНЕГІНСКАЙ СТРАФЫ

*(Армейскі экспромт)*

Усё Статутам прадугледжана:
Пад’ём, сняданне і адбой,
Вітанне, «крокам руш!» і «стой!» –
Усё распісана, разгледжана.
Ды толькі – скажам па сакрэту –
Адно забыліся ўлічыць,
Што ўсё ж часамі і паэты
Сярод салдатаў могуць быць.
У каравуле нельга есці,
Курыць, чытаць, пісаць, прысесці,
Яшчэ – крый Божа! – падрамаць.
Дык будзем рыфмы падбіраць!
І я складаю вершы тут,
Не парушаючы Статут!

*1965*

# ПРА РЫФМЫ

Калісьці рыфмы
Лезлі ў галаву,
Мне назалялі,
Час мой забіралі.
Здавалася,
Жыцця мне не давалі
(Хоць і дагэтуль, бачыце,
Жыву).

Цяпер без рыфм
Спакойненька жыву.
Раблю, што трэба,
Ем і сплю уволю.
І — ні радка
На папяровым полі...

Хоць бы адна
Зайшла у галаву!

*1964*

# ЭЦЮД

У нашай пяхотнай роце
Ўсе хлопцы як на падбор.
У нашай пяхотнай роце
Тальянкавы перабор.

На тое яна і субота,
Каб адпачыў салдат.
І рота ўся топча боты,
І кожны у танцы хват.

Лупцуюць салдаты польку,
Папарна ступіўшы у круг.
Мільгаюць пілоткі толькі
Над густалессем рук...

*1965*

# СВІТАЛЬНЫ ЭЦЮД

Ізноў Касая не пускае
Мяне ад ложка і пілюль.
Варожыць, што рабіць.
Не знае.
Не адступаецца,
Пакуль

Не сплоціш ёй спрадвечнай рэнты
Сваім здароўем ці жыццём.
Астачарцела ўсё дарэшты!
Далоў шпітальнае шмаццё!

Мне студзіць лоб, вяртае сілы
Лядок світальнага вакна.
Тэлеэкранны ранак сіні
На ім займаецца.
Відна

Лыжня крутая самалёта —
Да сонца шлях прамы прабіў.
Хлапчук услед глядзіць.
Ля плота
Лядаш ён смокча, як пламбір.

Знаёмай вуліцы абрысы:
Прабег руды малакавоз,
Прайшоў мужчына белабрысы —
У сетцы хлеб дамоў панёс...

Бялее шкло майго экрана.
І вось, як спраў належных цяг,
Як штрых чакана нечаканы
Малюнку рання і жыцця —

Ідзе суседка маладая!
Кірпаты носік акалеў...
І так адчайна выглядаюць
З-пад «міні» яблычкі калень!..

*1965*

# СЛЕД

Зноў за дзень — ні радка, ні верша.
То лянота, то часу брак.
Дык няўжо — як балюча верыць! —
Ты спісаўся ужо, небарак?

А другія друкуюць нізкі,
Кожны дзень свае пугі ўюць.
З ганарарнай глыбокай міскі
Гушчу самую дастаюць.

Ліха з ім — і з густым, і з рэдкім!
Не бяда, калі дзесь абышлі.
Мне вось толькі б унепрыкметку
След пакінуць свой на зямлі.

След у справах, і след на паперы,
І у сэрцах сяброўскіх след.
След, катораму б кожны паверыў,
Выпраўляючыся у свет.

Хай ён будзе зусім не першы,
Толькі б выкіраваў на бальшак,
След —
            завершанасць новага верша,
Што не вершыцца аніяк.

*1965*

# СЯБРЫНА

## ЛЕПШАЯ З ПРЫПРАЎ

*Івану Сіляўку*

Песня — лепшая з прыпраў
Для студэнцкіх страў.
Замяніць яна гатова
Да стыпендыі чарговай
Й несалодкі чай!
Стане ежай адмысловай
Хвост сялёдкі безгаловай —
Толькі заспявай!
Кішкі нема лемантуюць?
Ты ж пад музыку такую
Песню зацягні —
І ўвесь свет падасца раем,
Хоць наш страўнік повен граем,
А ў вачах — агні...

*1960*

# СТУДЭНЦКАМУ СЯБРУ

*Міколу Пашкевічу*

Прыйшоў гадок, прайшоў гадок,
За летам — зноўку восень...
І не агледзішся, браток,
Як стукне дваццаць восем.

Што тут парадзіць? Што сказаць?
Мы час не марнавалі.
Але ж, было, і ў дваццаць пяць
Са славай паміралі.

Да славы кожны не глухі.
Ды нам яна не трэба.
Вось толькі б край наш дарагі
Жыў з славаю і хлебам!

Каб мова — матчына душа —
Са славаю дужэла.
Прыйшоў гадок, прайшоў гадок —
Яна ж, як звон, звінела!

*20.05.1964*

# «АДНАПАКОЙНІКІ»

*Пятру Зялінскаму*

Ахрысцілі нас «аднапакойнікі»,
Бо ў пакоі адным жывём.
Месяцамі, гадамі спакойненька
Інтэрнацкі свой хлеб жуём.

А за далямі плачуць жоначкі,
Кленучы і свой лёс, і нас:
«Ні падгузнікаў вам, ні пялёначкаў —
Эх, мужы, толькі назва адна!»

Мы ў пакоі — што ў келлі братчыкі.
Ды не ўцямім дагэтуль ніяк:
Ці студэнты мы, ці выкладчыкі,
Хто жанаты, а хто халасцяк?

Да сталоўкі дарога няблізкая.
Кухаварым з бядой папалам.
А студэнтачкі вочкамі бліскаюць,
Па-суседску ўсміхаюцца нам...

Ахрысцілі нас «аднапакойнікі»,
Хоць з нас кожны жыве, як жыў...
Не кватэры —
Хаця б па пакоіку,
Любы рэктар,
Ты б нам удружыў!

*1970*

# АЛЬБОМУ, ПАДАРАВАНАМУ АДАМУ МАЛЬДЗІСУ Ў ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Час — то ўскач, то пакрыёму.
Ды не ўсё памрэ з гадамі!
Быў Альбом свой у Арцёма,
Хай ён будзе і ў Адама.

Яго вокладкі, як дзверы,
Хай заўсёды будуць насцеж
Перад тым, хто ў хвілю шчасця,
А ці ў смутку тым без меры
След пакіне на паперы.

Знаю, лепшыя старонкі
Будуць здадзены для жонкі.
Ды хачу, каб ты, Альбоме,
Хлебасолам стаў вядомым
І сяброў — далёкіх, блізкіх,
І замежных нават, мінскіх —
Ты прыняў, бы ў родным доме.

Каб, ад радасці гатовы
Розум страціць, кісялёвы
Дваццаць першага стагоддзя
Новых коласаў, бялінскіх,
Каралёвых, сухамлінскіх,

Караткевічаў валодзяў
Тут маглі «руку» знаходзіць.

Дык жыві ж, Альбом!
Адама —
Свайго бацьку —
Словам слаў!

Маці хросная — Таццяна.
Бацька хросны — Вячаслаў.

*7.08.1974*

# УСПАМІН

*Віктару Краснею*

Помніш, Віця, дружа Віця,
Як хадзілі мы на Свіцязь
І ў прыкуску з дымам, ветрам
У лясных глыталі нетрах
Навагрудскае паветра?

Млела возера прад намі,
Млелі ў возеры мы самі,
І бялелі па парадку,
Нібы ломцікі аплаткаў,
У сасонніку палаткі.

Невадок закідваў Месяц.
Добры ўлоў злавіцца меўся.
Мы ж, забыўшы ўсё на свеце,
Адганялі рыбу песняй
Ад яго срабрыстых сецяў.

Як жа смачна гатавалі
Дзве кухаркі нашы — Валі!
Век не знойдзеш параўнання
Не нябеснай — іхняй манне
Свіцязянскага снядання!

Рукзаком нарэжаш плечы —
Твае раны сон залечыць.
Ох, палатка-прыманюшка!

Лепш духмянае пампушкі
Пахнуць хвойныя падушкі!

З маладым такім імпэтам
Абыйсці б нам хоць паўсвету,
Падзяліць па роўнай долі
І скупую лыжку солі,
І дарожныя мазолі!

Не забудзься ж, дружа Віця,
Як хадзілі мы на Свіцязь!..

*1975*

# ВЯСЕЛЬНАЕ ПАЖАДАННЕ

*Сужэнцам Тарандам*

Каб не былі Вы
Ніколі у скрусе –
Пасаг збірайце
Для Белай Русі!
Аддайце народу
Свой шчодры дар –
Нясіце людзям
Духоўны нектар!
А мы, у пагоні за свежымі ведамі,
О як жа будзем бясконца рады,
У новым выданні энцыклапедыі
Убачыць любых усім нам Тарандаў!

*1983*

# ВАСІЛЮ БЫКАВУ
*(На 60-годдзе)*

Прамы, як ствол гарматы,
Якою нішчыў катаў,
Ні ў якай завірусе
Ніколі Ты не гнуўся!
Даўно аціх з фашызмам бой,
Ды зноў Ты на перадавой.
За Праўду і Сумленне
Вядзеш Ты наступленне,
Падлюгам, тарбахватам
Трасеш душу заўзята.
І дзе ёсць парасткі брыды —
Там боль Твой,
Крык,
Там знак бяды.
Пісьменнік наш народны,
Служы культуры роднай,
Адточвай адмыслова
Купалаўскае слова.
Нясі й далей народу дар,
Пясняр,
Прарок,
Ваяк,
Ўладар!

*1984*

# КАРЛАСУ ШЭРМАНУ, ПЕРАКЛАДЧЫКУ

На нас
Дванаццаць Карлаў перла,
І кожны лез з мячом
Як мог.
Ад іх
Ляцела толькі пер'е
На твань палескую,
На мох.

На нас
Дванаццаць Карлаў перла.
Ад іх —
Курганы ля дарог.
Прыйшоў нарэшце
Карлас Першы
Са словам дружбы, —
Й перамог!

*25.10.1984*

# ПАМЯЦІ АЛЫ КАБАКОВІЧ

Калі зямля адпачывала
І сніла свежую раллю,
Сышла ў яе дачасна Ала,
Сышла у мерзлую зямлю.

А з ёй пайшоў, хто мог з'явіцца,
Хто мог убачыць гэты свет...

Пачуццяў светлая крыніца
І думак новых кругабег
Пайшлі таксама з ёй навекі,
І ўжо не вернеш іх назад.

Труны цяжкой нямое века
Надзейна прыкрывае спрат.

Але ці можна дух зняволіць?
Ці можна слова супыніць?
Сатлее цела, дух — ніколі!
Ён зноў у слове празвініць,
Якое рупна рассявала,
Аберагала ад маны...

І ўзыдзе рунню чыстай Ала,
Зашэпча мовай збажыны!

*13.02.1985*

## СЯБРУ-ЮРЫСТУ

*Віктару Закржэўскаму*

Твая працоўная дарога
З майго Валожына пайшла.
І хоць было спакусаў многа —
З прамога шляху не сышла.

Вяла яна к Старым Дарогам,
Узду і Слуцк не абышла.
Былі і радасць, і трывога.
Ды вось і ў Мінск яна, дарога,
Цябе з Любоўю прывяла.

Што пажадаць табе, мой дружа?
Будзь смелы ў думках, сэрцам чыст.
І хоць твой шлях не ўсланы ружай,
Усе складанасці адужвай
І стань «Заслужаны юрыст»!

Ды кім не станеш у жыцці ты,
Хоць да нябёс цябе ўзнясуць,
Будзь да сяброў заўжды адкрыты,
Не парывай сяброўства ніты,
І наш Валожын
Не задудзь!

*6.10.1986*

# ЛЯСНІК

*Прафесару А. я. Супруну*

Зеленазвонны гай славянскіх моў
Звініць нязмоўкла-велічна над намі,
Засведчыўшы сваяцтва ўсіх вымоў
І кронамі і каранямі.

*Берёзы* — *brzozy* — *brezy* не маўчаць.
У *тополя з калиною* — гамонка.
І дзесьці на узлессі — ледзь чуваць —
Свой голас падае й мая *сасонка*.

І ходзіць паміж дрэў сівы ляснік,
Мудрэц тутэйшы, чарадзей вядомы.
Глядзіць, каб хто з насельнікаў не знік,
Не ссох, не зьвяў, а чуў сябе як дома.

Над гаем часта носяцца вятры,
Сукі ламаюць і камлі калечаць,
Загадваюць: «Замры!»,
Крычаць: «Памры!».
І гай памёр бы, каб не дактары —
Рупліўцы-леснікі, што раны лечаць.

Ляснік наш знае тайны птушак, дрэў,
Бусла маркоту і сасны трывогу.
І хоць ён з часам крыху пастарэў,
Ды ногі зноўку просяцца ў дарогу.

У веснім сугалоссі дрэў і траў
Не ўсё пагодна, часам – і імгліста.
Мудрэц, ён за жыццё сваё спазнаў
Гармонію шматстайнага адзінства.

Ён, чарадзей, на згубу шле праклён,
Чаруе ад хваробаў і калецтва.
Ён ведае: загіне дуб ці клён –
І абяднее гай.
І чалавецтва.

Таму і ходзіць сярод дрэў ляснік,
Мудрэц вядомы, чарадзей тутэйшы.
І для яго – як гэты свет вялік –
Рознагалосы гай – найпрыгажэйшы!

*24.10.1998*

## ПЯТРУ РОГАЧУ

*(На 60-годдзе)*

І к табе прыйшло нарэшце
З светлым сумам паўналецце.
Што сказаць табе сягоння
Дружа Пеця, Рогач Пеця?
Хіба ўспомніць аспіранцкі
Дом наш, поўны мар-сухвецця ў,
І дзяўчат, якіх любілі
Мы з табою, сябра Пеця?
Ці згадаць «вяселле веку»,
Дзе ад полек пыл віхрыўся,
Дзе, нібы Хрыстос, на сене
Ледзь Васіль не нарадзіўся?
За жыццё за наша колькі
Паляцела на ўзвей-вецер!
Лад, дзяржава — на асколкі.
Мы ж ранейшыя ўсё, Пеця!
Адышлі, адмерлі, зніклі...
Ды ў святле ранейшым дзіўным
Засталася з намі разам
Мова, Праўда і Радзіма.
А яшчэ — красуні жонкі,
А яшчэ — няўструі дзеці...
Дык жа жыць да ста і болей
Нам з табою, Рогач Пеця!

*14.09.1999*

# СЯБРУ МАЛЕНСТВА

*Памяці*
*Стася Дземідовіча*

Ад’ездзіў. Адхадзіў. Адхваляваўся.
Адбедаваў. Адгораў. Адслужыў.
Набыўся. Налюбіўся. Накахаўся.
Нацешыўмя. Намарыўся –
Пражыў.

Ні жартаў больш. Ні страху. І ні енку.
З душы адпалі, быццам нейкі груз,
Хрушчовы, гарбачовы, лукашэнкі,
Кампартыя, Саюз і прафсаюз.

Ці ісціны ўхапіў святую меру?
Ці зведаў ты, дзе плён, дзе тлен і прах?
На часткі рвалі сэрца мовы, веры –
Касцёл, царква,
Былой ідэі крах...

Застылі ў скрусе і дачка і жонка.
О, што за лёс такі!
О, што за рок!
Шумі, шумі, магільная сасонка!
Будзь лёгкі, родны ракаўскі жвірок!

Вароты ў рай і пекла...
Божа слаўны –
Куды паслаць? –

Задумліва з нябёс
Глядзіць не каталіцкі,
Праваслаўны —
Адзін на дзве канфесіі
Хрыстос.

*19.09.2001*

# ВЕРШЫК-ЖАРТ

*Ларысе Мурынай*

Хаджу ўвесь дзень зажураны,
Ізноў як нежывы.
Ўсё Мурына ды Мурына
Не лезе з галавы
«Ты, мабыць, ёй ахмураны?» —
Пытаецца дружбак.
Ах, Мурына, ох, Мурына,
Ці так гэта, ці так?
«Ахмураны? Ачмураны?»
Няхай жыве «la mour»!
Ды Мурына, ды Мурына
Нязгібная, як мур.
О, хоць бы скасавурана
Зірнула на мяне!
Адно часамі Мурына
Паглядам паласне.
«Твае шляхі захмураны, —
Мне кажа зноў дружбак. —
Хіба не знаеш, Мурыну
Кахае ўвесь філфак!
Ты кінь надзеі дурыны,
Бо будзеш сам не рад.
Хіба не знаеш, Мурыну
Кахае рэктарат!..»

Хаджу ўвесь дзень зажураны,
Ізноў як нежывы.
Ўсё Мурына ды Мурына
Не лезе з галавы...

*22.03.2001*

# НАРАДЗІЎСЯ Ў МЯНЕ ЎНУК...

*Стасіку,*
*майму ўнуку-першынцу*

Зноў у хаце гоман, грук,
Не засне ў куце павук,
Чарка ў чарку стук і стук –
*Нарадзіўся ў мяне ўнук!*

Можа, гэта сніцца ў сне –
Нарадзіўся *у мяне*?
Я ж – мужчына, Не, не можа
Нарадзіцца у мяне!

Так не скажа фізіёлаг,
А не толькі брат-філолаг...
«Нарадзіўся...» Не, не можа
Нарадзіцца *у мяне*!

Лепш: «У жонкі нарадзіўся...»
Але й тут я памыліўся!
Колькі год ёй?.. Не, не можа
Нарадзіцца і *ў яе*!

Ага, вось яна, прычына:
Сын радзіўся ў майго сына!
У мужчыны?.. Не, не можа
Нарадзіцца і *ў яго*!

Я п’янею з добрай весткі:
Нарадзіўся у нявесткі!
Гэта праўда! Можа, можа
Нарадзіцца *у яе*!

Ды і тут ізноў, брат, штука:
Нарадзіла ж *не унука*,
Але *сына*. Ўнук не можа
Нарадзіцца у яе!

Што рабіць мне, бацьку-дзеду?
У Амерыку паеду.
Там памогуць разабрацца
З дапамогай... аперацыі.

*29.02.1996*

# СВАТУ

*Юрыю Дзюкаву*

Доўга бацька стукаў-грукаў –
Майстраваў.
З'явіўся Дзюкаў.

Маці шмат не разважала –
Зразу Юрыем назвала.

Падрастаў, уздужваў Дзюкаў,
Бацьку чціў і маці слухаў.

Так пражыў ён многа-мала,
Покуль Зіна напаткала.

А там сам ужо загрукаў.
Ён аматар гэткіх штукаў!

Выштукаваў Элу ўдала,
Дый сынка не як папала!

А жыццё бяжыць!
І Дзюкаў
Прычакаў ужо і ўнукаў.

Ды хто скажа з вас, што Дзюкаў
Шэсцьдзесят ужо адгрукаў?!

Хоць жыццё яго й кідала,
Але сілы захавала...

Пажадаем жа, каб Дзюкаў
Пажаніў яшчэ й праўнукаў!

*5.07.1998*

# ГЕНАДЗЮ ШУПЕНЬКУ
*(У дзень 70-годдзя)*

З юбілеем,
Наш харошы
Сябар,
Крытык,
Бацька,
Муж!
Шмат здароўя,
Ў меру — грошай,
Каб і чарку ўзяць
Быў дуж
Мы жадаем!
І к таму ж
Помні прымаўку
Рагойшаў:
«Грошы — прах,
Адзенне — тожа,
А любоў —
За ўсё даражай!»

*6.04.2006*

# РАСКАЖЫ, АНТОСЬ...

*Памяці Антося Рагойшы*

«Раскажы, Антось,
Што было, што ёсць...»
І расказваў дзед
Пра:
Заходнебеларускую
Стагнацыю,
Пацыфікацыю,
Паланізацыю,
Уласную акліматызацыю
У Ракаўскай польскай школе...

«Раскажы Антось,
Што было, што ёсць...»
І расказваў бацька
Пра:
Нямецкую акупацыю,
Германізацыю,
Фашызацыю,
Пасляваенныя
Калектывізацыю,
Саветызацыю,
Русіфікацыю
Нашай нацыі...

«Раскажы, Антось,
Што было, што ёсць...»
І расказваў дзядзька
Пра:
Люстрацыю,
Гулагізацыю,
Дэсталінізацыю,
Віскулізацыю,
Кволую беларусізацыю
Гродзенскага універсітэта...

«Раскажы, Антось...»
Ужо не раскажа.
Адпусцілі
У рай.
Адпелі
У Ракаўскай царкве,
Дзе і хрысцілі...

«Раскажы, Антось...»
Яшчэ раскажа! —
Вуснамі
Будучага гісторыка,
Творцы гісторыі,
Унука.
Які
Таксама Рагойша.
Таксама Антось.

Абавязкова раскажа! —
Пра:
Новую,
Вольную,
Шчасліву́ю,
Беларускую
Беларусь!

*18.03.2007*

# РУЖАНЕЦ

## ПРА СЛАВУ І НАДЗЕЮ

Бываюць розныя праявы,
Але закон жыццёвы дзее:
Надзея
Можа жыць без славы,
Ды славе –
Нельга без надзеі!

# НАШ ЛЁС

Наш лес –
Наш лёс
З добром
І без.
Не трэба
Слёз!
Наш лёс –
Наш лес...

# НАВУКА З НАВУК

Навука з навук
Для Русі для Белай:
З’явіцца
Лук –
Знойдуцца
Стрэлы.

# З ЛІСТА АЎСТРЫЙСКАМУ КАЛЕГУ

Ты кажаш,
Ёсць у вас
І Кафка.
Ну што ж,
Па свеце радасць сей.
Але чым горшы брат наш
Каўка
Аляксей?!

# ГЛЕДЗЯЧЫ З ВАКНА ВАГОНА НА РУСКУЮ РАЎНІНУ

Русафобы,
Русафілы,
Русацяпы...
Божа мілы!
Колькі русаў!
Міліёны!
Толькі ж хто...
Ўзарэ загоны?

# З МАНКУРТАЎСКІХ ТОСТАЎ

«Ану, янычары,
Узнімем чары!
Манкурты,
Манкурткі,
Напоўнім кубкі!»
Чарка — хрусь!
Кубак — хрусь! —
«За белую Русь!
За белую Русь!»

## ДВУХ…

Двухгаловы арол.
Двухязыкая змяя.
Двухмоўе…

# ЗАКАНАМЕРНАСЦЬ

Хто на родную мову
Руку падымае,
Таму неўзабаве
Мову займае.

## ГОРШ...

Даўно
Зацята-засцянкова
Ён ганіць
Гонар свой
                і
Мову.
Ён горш свінні —
Свіння і тая
У свой бярлог
Не намарае!

# ПЕРАКІНЧЫК

Быў слухачом,
Глытаў навіны,
Нібы скаціна той мурог.
Стаў стукачом.
Глытаць не кінуў.
Ды ад нястраўнасці
Падох.

# КАЗАЎ...

Казаў:
«я — нацыі сумленне!»
Казаў:
«О людзі, я для вас!»
Але ўзяло людзей
Сумненне.
Праверылі —
Адно глумленне...
Вось так і спёкся,
Папуас!

# МЕТАМАРФОЗА

Быў «камуністам» —
Стаў папулістам
І кумунякам.
Быў «гуманістам» —
Стаў гуманоідам,
Потым — сабакам...

## МАЛЕННЕ

Жыў поп,
Жыве поп —
Беларусафоб.
Жыў ксёндз,
Жыве ксёндз —
Таксама «фоб».
О Божа,
Дакажы,
Што ты ўсемагутны!
Наш край
Пашкадуй
Шматпакутны.
І служак сваіх
Гэткіх «мілых» —
Двух «фобаў» —
Перайнач
Калі не ў беларусафілаў,
То хаця б
У беларусаробаў!

# ПЕРШЫ – АПОШНІ

Ты лічышся першым,
Бо першым пачаў
Ты бэсціць і мову,
І пожні.
Ды хто б ні хваліў цябе,
Што б ні казаў –
Апошні, браток, ты –
Апошні!

## «ТЫПОВЫ» БЕЛАРУС

Ён чым галеў,
Тым і смялеў —
Зусім «тыповы»
Беларус.
Пры падначаленых ён —
Леў,
А пры начальстве —
Трус.

## НЕ ГАРУЙ!

Не гаруй,
Што Ветах
Зноў на небе знік.
Не канец жа
Свету –
Бліснe
Маладзік!

# ПОЎЛО ТЫЧЫНУ

У зычным спеве «Сонечных кларнетаў»
Мне й родных гукаў водгалас чуцён:
І «Дудкі» Багушэвічавай рэха,
І «Скрыпкі беларускай» Цёткі голас,
Купалавай «Жалейкі» горды жаль.

Гучыце ж вечна, сонечна «Кларнеты»!

## ПРА ЗОРЫ ПІШАМ…

Пра зоры пішам і пра горы,
Пра моры — вершаў гаць гаці.
Пра вёску ж родную ці горад
Радка жывога не знайсці.

# ТЫ ХТО?

Ты хто,
Мая Сіняя-Сіняя?
Скажы,
Бо ніяк не ўтаропаю:
Заходні фасад
Расіі,
Ці ўсходні фасад
Еўропы?

# ПРА «ІНТЭГРАЦЫЮ»

Асобныя расійскія палітыкі інтэграцыю, яднанне нашых дзяржаў разумеюць толькі як уваходжанне Беларусі ў склад Расіі.

*З газет*

...А нядаўна на узлеску
Бачыў я праяву:
Трус-бядак
«Інтэграваўся»
У пашчу
Удаву.

# ПЫТАННЕ

Мы
Незалежнасць
Пакідаем???
А ты
«Ўз’ядналася б»
З Кітаем?

# ХІЦЕР ЗМІЦЕР

Хіцер Зміцер.
Вось дык гусь!
Мякка сцеле,
Густа сее...
На языку –
«Белая Русь»,
На ўме –
«белая Расея»...

# ЯК ВЕК ВЕКАМ...

Кожны з нас
З маленства знае,
Як век векам,
Так вядзецца:
Слон і Моська,
Мішка й Заяц
Не ўжывуцца
Ў адной клетцы!

# НАДЗЕЯ ЛІТАРАТУРНАГА РАМЕСНІКА

Мне тое ўжо дае натхненне,
Што, каб мяне крытыкаваць,
Не хопіць крытыку цярпення
Маё тварэнне прачытаць.

# ПРА МЕРУ

Адзін Сцяпан
Гарэлку піў
І — ледзь не сто гадоў
Пражыў.
Другі Сцяпан
Віно сцябаў
І — сарака не прычакаў.
Калі падумаць,
Тут віна —
Ані гарэлкі,
Ні віна.
А ўся віна яе, халеры, —
Меры!

# ПУСТАХВАЛ

Ён цэлы год
Хваліўся,
Гаварыў,
Як ён у генія
Цыгарку прыкурыў.
Цікава,
Колькі ж будзе
Гаварыць,
Як геній
У яго
Папросіць прыкурыць?

# СВІШЧЫ...

Свішчы,
Свістун,
Іскры,
Іскрун,
Глытай са здрады келіха,
Пакуль твой час.
Бо прыдзе час –
І памяняецца «уласць».
І за цябе ніхто не дасць
І ломанага
Шэлеха.

# ЭКСПЕРЫМЕНТ

Вось
Ізноў
Эксперымент:
Не,
Не тоне
Экскрэмент!

## ПАЧНІ З СЯБЕ!

Годзе ныць:
«Загіне Айчына...»
Лепш з сябе пачынай
Без прынукаў:
Навучы роднай мове
Сына,
Навучы роднай мове
Унука!

# БЕЛАРУСАМ XXI СТАГОДДЗЯ

Аптымізму!
Болей аптымізму!
Хай свяціцца шлях,
Якім ідзём!
Не прапалі ў век мы
...лізму,
...цызму,
...нізму,
Дык цяпер тым больш
Не прападзём!

# БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Рагойша Вячаслаў Пятровіч нарадзіўся 5.06.1942 у мястэчку Ракаў Валожынскага р-на Мінскай вобл. Закончыў Ракаўскую СШ (1958), філфак і аспірантуру БДУ. У 1965 служыў у Савецкай Арміі. З 1967 выкладае ў БДУ. Доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры тэорыі літаратуры гэтага універсітэта (з 1994). Акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі. Аўтар звыш 20 манаграфій, кніг артыкулаў і эсэ, шматлікіх публікацый у перыёдыцы. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў і Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франко.

Апрача навуковай, займаецца і літаратурна-творчай працай. З вершамі, рэцэнзіямі, вершаванымі і празаічнымі перакладамі, эсэ выступае з 1957года.

Вершы (у тым ліку і тыя, што ўвайшлі ў гэтую кнігу) друкаваліся ў наступных выданнях:

*Новаму Году. Зімою* // Сцяг Ільіча (Радашковічы). – 1957. – 1 студзеня.

*У паход на стэпы* // Тамсама. – 1957. – 17 лютага.

*У першы раз* // Тамсама. – 1957. – 3 сакавіка.

*Мой сябра* // Тамсама. – 1957. – 7 красавіка.

*Земляком сваім я ганаруся* // Тамсама. – 1957. – 7 ліпеня.

*Сельскі ўрач* // Тамсама. – 1958. – 1 студзеня.

*Просьба ўнука* // Тамсама. – 1958. – 13 красавіка.

*Закоскі. Калоссе* // Тамсама. – 1958. – 18 кастрычніка.

*Закоскі* // Чырвоная змена. – 1959. – 12 лютага.

*Дома* // Тамсама. – 1959. – 22 сакавіка.

*Землякам* // Сцяг Ільіча. – 1960. – 16 студзеня.

*Зімовы вечар. Плячо к плячу* // Искра (Валожын). — 1960. — 21 мая.

*У школьным садзе* // Бярозка. — 1960. — №5.

*Я знаю* // Искра. — 1961. — 29 марта.

*У жніво* // Тамсама. — 1961. — 5 августа.

*Падрыўнікі* // Чырвоная змена. — 1961. — 17 верасня. *Тое ж* // Искра. — 1961. — 11 ноября.

*Стары млын* // Искра. — 1962. — 21 апреля (пад псеўд. Р. Васілеўскі).

*У Альбуці* // ЛіМ. — 1962. — 2 лістапада.

*Сустрэча* // Чырвоная змена. — 1962. — 3 лістапада.

*Мой сябар* // Беларусь. — 1963. — №3.

*Вось так аднойчы пракрычаць трывогу. «Многа ёсць рэчаў, якія хвалю...»* //Чырвоная змена. — 1965. — 10 кастрычніка.

*Землякам* // Працоўная слава (Валожын). — 1965. — 28 снежня.

*Па дарозе ў Стоўбцы* // Чырвоная змена. — 1966. — 2 лістапада.

*Быў толькі сон* // Беларусь. — 1967. — №8.

*У Альбуці* // У сэрцы народным: Жыццё і творчасць якуба Коласа. — Мн., 1967.

*Сустрэча* // Універсітэт паэтычны. — Мн., 1971.

*Мой сябар* // Піянер Беларусі. —1974. — 28 сакавіка.

*Улас «перабудавайся»* // Звязда. — 1987. — 1 сакавіка. *Тое ж* // Ніва (Беласток). — 1987. — 12 красавіка.

*Мая рака* // Матчына слова. — Мн., 1991.

*«Весною не дармувати...»* // Високий Замок (Львів).— 1992. — 4 червня (пер. на ўкр. мову У. Лучука).

*Зустріч з якубом Коласом* // Просвіта (Львів). — 1992. — 4 червня (пер. на ўкр. мову У. Лучука).

*«Мне хочацца ў дзень гэты весні...»* // Високий Замок. — 1992. — 4 червня.

*Уваскрэсні, народ!* // ЛіМ. — 1994. — 22 красавіка.

*А што ні кабета — багіня!* // Звязда. — 1998. — 7 сакавіка.

*З рэфлексій апошніх гадоў* // ЛіМ. — 1998. — 1 мая.

*«Зеленазвонны гай славянскіх моў...»* // Звязда. — 1998. — 24 кастрычніка.

*Купалаўскі двуверш* // янка Купала. Свой пачэсны пасад. — Мн., 1999.

*Пан у сваёй хаце* // ЛіМ. — 1999. — 9 красавіка.

*Ляснік. Мая рака. Наша мова. Пачні з сябе* // Роднае слова. — 1999. — №4.

*Беларуская мова. Наш лёс. Пачні з сябе. Полюс цяпла* // Звязда. — 2000. — 3 мая.

*Ля помніка Максіму Багдановічу* // ЛіМ. — 2000. — 7 красавіка.

*На Святой Зямлі* // Ракаўскі шлях. — 2001. — №2.

*Палігон. Брахікалан чакання. На Святой Зямлі* // ЛіМ. — 2001. — 25 мая.

*Трызуб* // Звязда. — 2001. — 24 жніўня.

*«О, Беларусь!..»* // Верш на свабоду. — Мн., 2002.

*Ода захалявній книжці Тараса Шевченка. Тризуб. Білоруська мова* // Літературна Україна (Київ). — 2003. — 24 квітня (пер. на ўкр. мову Р. Лубкіўскага).

*Ода захалявній книжці Тараса Шевченка* // Шевченкова дорога в Білорусь. — Львів, 2004 (пер. на ўкр. мову Р. Лубкіўскага).

*Сляпы снег. Землякам. Беларуская мова. Фемiністычнае. Пачні з сябе* // Зямлі маёй і землякам: Валожыншчына паэтычная. — Мн., 2005.

*З вершаваных пасланняў Вячаслава Рагойшы да Надзеі Батурыцкай* // Надзея. — Мн., 2006.

*Мая рака. Пан у сваёй хаце. Сляпы снег. З рэфлексій апошніх гадоў* // Люблю наш край...: Валожыншчына літаратурная. — Мн., 2006.

# ЗМЕСТ



## Жыве Беларусь

## Я — месяц твой

## Першапутак

## Сябрына

## Ружанец

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Рагойша** Вячаслаў Пятровіч

# Полюс цяпла

*вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Т. Кабржыцкая*
Камп'ютэрны набор *В. Рагойшы*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *В. Рагойша*

Падпісана да друку 20.04.2007 г. Фармат 60x84 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. 4,12 арк. Ул.-выд. 5,12 арк.
Наклад 300 паас. Зак. 566.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
220112, Мінск, вул. я. Лучыны, 38-93.
**Тэл./факс (017) 204-86-97,**
**тэл. (029) 772-19-14, 912-83-86.**

Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка
ў друкарні ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9.